Андрэй Хадановіч

# Цягнік Чыкага-Токіё

падарожныя песьні з карцінкамі й акордамі

Малюнкі Райнхарда Кляйста

Логвінаў

*Аўтар выказвае падзяку Інстытуту імені Гётэ ў Мінску*

Новая кніга вершаў Андрэя Хадановіча – амаль кругасьветнае падарожжа ў таварыстве мёртвых паэтаў, жывых празаікаў і перакладзеных бардаў, каліфарнійскіх геяў ды ісляндзкіх гейзэраў, шэрых аёўскіх вавёрак і чырвоных латыскіх стралкоў. Аўтар раскажа пра сьвяты працоўных амэрыканцаў і будні айчынных дармаедаў, пакажа, як галяндзкія чыпсы ператвараюцца ў дзюймовачку, барсэлёнскія галубы – у папугаяў, а беларускія літары – у грузінскія. Падарожжа пачынаецца ў Парыжы, дзе няма 38 тралейбуса, і заканчваецца ў Менску, дзе ён ёсьць. Напрыканцы, як заўжды, хэпі-энд і Каляды.

**ISBN 978-609-8147-49-0**

* * *

я куплю ў букініста гадзіну парыскага сну
сорак восем хвілінаў сьпякоты й дванаццаць залевы
каб, накрыўшыся мапай, бы коўдрай, гадзінку адну
паварочацца з правага берагу Сены на левы

аблажу́ ўсе музэі, абла́жу бульвары й сады
захаплю ўсе кнігарні, уброд перайду ўсе фантаны
трохі сонца ў бутэльцы халоднай парыскай вады
ўставіць зь першай цытаты – й гатовы турыст апантаны

*sous le pont Mirabeau* буду качкам сьпяваць пра любоў
і паўпляшкі найлепшай гарэлкі пакіну кляшару
круасанамі сьвежымі буду карміць галубоў
гэта сон, паўтараю, чаго ні прысьніцца на шару

па жалезных прыступках Парыж пакідае зямлю
і зьнікае ў сьвяточных агнях, нібы мерае вэлюм
я, спусьціўшыся ўніз, сувэнірную вежу куплю
старгаваўшыся з самым назойлівым афра-Эйфэлем

падміргну дзіваку пад вадой, што глядзіцца ў ваду
ўсіх ільвоў і хімэраў бяз камэры сфатаграфую
і з такою дзяўчынай на могілкі ўвечар прыйду
што прачнецца Гензбур і для нас засьпявае ўжывую

мажны вусень запаліць на цёплай магільнай пліце
разбрыдуцца дзяўчаты, і мы застанемся сам-насам
пачастуе дабром, што ў Эўропе амаль не расьце
й дым айчыны яго паплыве над усім Манпарнасам

я чытаў яго кнігі і зараз пазыку вярну
і вось гэтую рыфму пакіну яму на паперцы
я куплю ў букініста гадзіну парыскага сну
а на болей ня хопіць ні грошай, ні часу, ні сэрца

## Стомленасьць Парыжам

Мазалі на нагах нацiраеш адразу,
адзін – на правай падэшве,
другі – на левай.

Каб хоць трохі загаварыць боль,
прыдумляеш для іх імёны
і, наступаючы,
просіш яшчэ пацярпець:

правай нагой – Дранько,
левай – Майсюка.

## Дотык

Яна была ў майцы
з турыстычным парыскім каляжыкам
на грудзях:

зьлева, дзе сэрца, –
Эйфэлева вежа,
справа, насупраць вежы, –
авэню Шанз-Элізэ.

Спачатку ён дакрануўся справа.

Пад Елісейскімі палямі не было станіка.
Эйфэлева вежа забілася хутчэй.

# Мэтраполітэн-опэра

Скрыпач грае ў вагоне
парыскага мэтро.
Здаецца, Моцарта.
Здаецца, з “Жаніцьбы Фігаро”.
А потым сьціпла просіць
маленькі ганарар для музыкі.
Сёй-той нават нешта падае.
Але найбольш ахвотна і больш за ўсіх –
тыя, хто едзе ў навушніках.

# Казкі Вэнсэнскага лесу

## 1. Брыдкае качаня

Жыло сабе брыдкае качаня,
добра сябе паводзіла,
слухалася старэйшых
і, галоўнае, выдатна харчавалася,
бо вельмі хацела хутчэй вырасьці.

Ела яно, ела,
але так і не зрабілася
прыўкрасным лебедзем,
бо аднойчы памерла,
ушчэнт закормленае турыстамі.

“Калі вы любіце птушак,
не карміце іх”, –
напісана ва ўсіх парыскіх парках.

## 2. Кот у ботах

На мастах паміж астравамі
аднаго з азёраў Вэнсэнскага лесу
катэгарычна забараняецца
праход з сабакамі.
Шкада, што ні слова пра катоў.

Што робіць кот у ботах
даверлівых турыстаў,
якія разуваюцца,
расьцягнуўшыся на газоне, –
лепш у мяне не пытайце!

## 3. Папялушка

Часам кот
пасьпявае нагадзіць
толькі ў адзін туфлік.

## 4. Дзюймовачка

Знакаміты галяндзкі батанік
аднойчы наведаў Parc Floral
і доўга-доўга вывучаў
усе чырвоныя, белыя, жоўтыя,
аранжавыя, блакітныя, фіялетавыя,
ружовыя, барвовыя, лілёвыя
туліпаны, але не знайшоў у іх
ніводнай дзюймовачкі.

Стаміўшыся, ён прысеў на лавачку
і разарваў упакоўку з чыпсамі,
а там – маленечкая дзяўчынка,
усьміхаецца яму
і нешта шчабеча на ягонай мове.

Істотна, што бульба,
зь якой зрабілі чыпсы,
была зь яго роднай Галяндыі.

Трава таксама.

## Парыская трасянка

Тонучы ў Сене,
хапаесься за саломінку.

# Савецкая фантастыка

*Чэславу Мілашу*

У сярэдзіне 80-х настаўніца ў нашай школе
больш за ўсё любіла заводзіць нам сваю вечную
песьню пра хуткі канец сьвету
і зьвярыны ашчэр капіталізму.

“У іхным сьвеце, дзеткі,
усё прадаецца і ўсё купляецца,
нават людзі, нават чалавечыя пачуцьці!

Іхныя сем’і, дзеткі, – гэта ўзаконеная прастытуцыя,
а дзяўчаткі там проста займаюцца гэтым за грошы.
Толькі ўявіце сабе – каханьне за грошы!”

Мы ахвотна ўяўлялі сабе каханьне за грошы.

“Такі ён, зьвярыны ашчэр капіталізму!
Такія яны, прадажныя дзяўчаткі!” –
працягвала настаўніца.

“І ня толькі дзяўчаткі!” –
улазіў прасунуты Юра Гейфман,
а мы ў гэты час стараліся ня думаць,
але ўсё адно думалі пра нашую суседку Галю
і ейны зьвярыны ашчэр.

“А што яны робяць з прыродай! –
упарта вяла сваё настаўніца. –

Яны спэцыяльна забруджваюць
тое, што атрымалі ад продкаў чыстым,
каб прадаваць людзям
тое, што ім належыць бясплатна.
Чыталі "Прадаўца паветра"?"

Ты і Юра Гейфман казалі: "Так".

"Дык вось, ня ведаю, як з паветрам,
гэта ўсё-ткі савецкая фантастыка,
але ўжо сапраўды блізкі той час,
калі яны будуць прадаваць за грошы ваду.
Толькі ўявіце сабе – звычайную чыстую ваду,
якую мы п'ем з крану!"

Мы адразу згадалі, як за дзень да таго
Юра Гейфман зламаў аўтамат
і ўсіх частаваў бясплатнай газіроўкай без сыропу.
З сыропам у Юры тады чамусьці ня выйшла,
як, дарэчы, і ў настаўніцы з палітінфармацыяй.

А сёньня, купляючы звычайную ваду
у францускім супэрмаркеце Carrefour,
я думаю, што ўсе ейныя прароцтвы,
на жаль, збыліся –
і паўсюль настаў канец сьвету.

І толькі сівенькі стары ў Carrefour'ы
кажа мне, завязваючы пакет з памідорамі:
"Парыская вада – харошая.
Можаш сьмела піць з крану".

## Новы рэалізм

Калі зрываеш першы слой шпалераў,
зьдзіўляесься сваім эстэтычным густам
пятнаццацігадовай даўніны.

Калі зрываеш другі слой,
дазнаесься, якія шпалеры любілі
твае бацькі або папярэднія гаспадары кватэры.

За трэцім слоем вылазяць
савецкія газэты пачатку шасьцідзясятых,
смайлік ад Юрыя Гагарына,
як віншаваньне з Днём касманаўтыкі.

Далей пасьляваенны і даваенны слаі палімпсэсту,
купалаўскія лётчык і хлопчык,
што некалі прымушалі Гагарына
усьміхацца яшчэ шырэй.

Калі зрываць ня ўсё запар,
а толькі фрагмэнтамі,
і пагружацца на розную глыбіню слаёў,
складаецца дзівосны ўзор:

палова твару першага савецкага
ў белым вянчыку з ружаў,
салатавыя палосачкі,
ружовыя ромбікі,
чорныя квадрацікі й рамачкі,

бацька народаў,
усесаюзны стараста,
падобны да бацькі псыхааналізу, –
я, ведай, вялікі ўжо хлопчык
і ўмею ўжо лётаць у сьне,
саюз, апалён,
стыкоўка, расстыкоўка,
далей тынкоўка.

Касьмічная мазаіка,
якая нават ня сьнілася
францускім новым рэалістам.

Галоўнае – выбраць правільную сьценку
у правільным доме
і правільнай краіне.

## Парыскія мадэрністы

Нарадзіліся амаль адначасова
у Кракаве і Варшаве,
Адэсе і Лодзі,
Гомелі й Сьмілавічах.

Памерлі зусім маладыя ў Парыжы.
Або зусім старэнькія
у Тэль-Авіве ці на францускіх курортах.

Або не зусім маладыя
і не зусім старэнькія.
У Асьвенцыме.

## Таварыства мёртвых паэтаў

Набліжэньне могілак Пэр-Ляшэз
адчуваеш па ўсё большай колькасьці
турыстычных маек з выявай Джыма Морысана.

Францускія славутасьці мусілі б зайздросьціць,
калі б яшчэ мелі такую здольнасьць.

Скажам, прыдумаў жа нехта пахаваць
паэта Жэрара дэ Нэрваля (1808–1855)
проста насупраць самага знакамітага
францускага пісьменьніка.
Толькі ўявіце: ля тваёй магілы
увесь час таўкуцца турысты,
і ўсе як адзін да цябе сьпінай.
Некаторыя нават
спатыкаюцца на цябе, фатаграфуючы.
І толькі я, дзівак, на дзесяць хвілін
завіс каля ўлюбёнага паэта
і толькі цяпер заўважыў Бальзака (1799–1850).

Дарэчы, скажы мне, хто твой сусед па магіле,
і я скажу, кім ты быў пры жыцьці.

Вось Поль Элюар (1895–1952) загуляўся ў камунізм
і цяпер ляжыць побач з генсекам
камуністычнай партыі Францыі
Марысам Тарэзам (1900–1964).

А Мальер (1622–1673) ні ў што такое не гуляў,
і цяпер побач з калегам па пяры,
сумленным байкапісцам Ляфантэнам (1621–1695),
ляжаць разам за агульнай агароджай,
як адна сям'я.

Мюсэ (1810–1857) і Шапэн (1810–1849)
не за агульнай агароджай,
а досыць далёка адзін ад аднаго,
але ў самім афармленьні магілаў
адчуваецца адна рука.
Падазраю, жаночая (1804–1876).

На магіле Апалінэра (1880–1918) – вялікае сэрца
у выглядзе верша-каліграмы,
а на Ўайлдавай сэрцаў безьліч,
і ўсе – чырвоным маркерам
або губной памадай.

Магілу Ўайлда (1854–1900) знайсьці лёгка
па выбухах жыцьцярадаснага рогату,
дзявочага і асабліва хлапечага.
Ўайлд з усіх бакоў агароджаны шкляной сьценкай,
каб не разарвалі прыхільнікі,
якія сьпярэсьцілі ўсё шкло надпісамі і сьлядамі памады.
Заслугоўваюць увагі: "Pleasure to meet you Oscar!" – з сэрцайкам,
"Oscar my favorite dandy" – з зорачкай
і мой улюбёны: "Oscar te amamos!" – з кубінскім сьцяжком.
Найбольшы надпіс, вядома ж, па-расійску:
"Любви все возрасты покорны!"
Цікава, як выглядала б на Пэр-Ляшэз магіла Цоя (1962–1990)?

Магіла Морысана (1943–1971)
не агароджаная шклом,
затое там увесь час дзяжурыць жывы паліцэйскі,
стаіць ля камля найбліжэйшага дрэва
і часам перашкаджае ляпіць да яго жуйкі,
але дрэва ўсё адно ў жуйках, прылепленых да іх манэтках
і іншых сьціплых дарунках.
Самы шчодры пакінуў бляшанку бэльгійскага піва,
пакойся зь мірам, Джымі!

Над магілай Мадыльяні (1884–1920) пачынаецца дождж,
а над магілай Эдыт Піяф (1915–1963) канчаецца,
і неба робіцца блакітнае.

У надмагільнай пліце
Марсэля Пруста (1871–1922)
адбіваюцца аблокі.

## Музэй Сярэднявечча

1. Вітраж XIII ст.

Саламея
устае на задні мосьцік.
Ёсьць ад чаго страціць галаву.

2. Пакуты Гасподнія (XIV ст.)

Вартаўнікі сьпяць.
Хрыстос вылазіць з труны.
Асьцярожна, каб не абудзіць.

3. Вітраж XV ст.

Першая думка:
каго і навошта Хрыстос
цягае за вуха?

Толькі па мячы Пётры
разумееш, што вуха насамрэч
прыстаўляюць на месца.

4. Сярэднявечны алегарызм

Пяць выяваў Дамы з аднарогам
адпавядаюць пяці пачуцьцям.
На той, што сымбалізуе зрок,
аднарог глядзіцца ў люстэрка Дамы.

Люстэрка маленькае –
і аднарог бачыць сябе
бязрогім.

5. Сярэднявечны рэалізм

Сьвінка грае на аргане,
прычым і арган, і сьвінка
выглядаюць максымальна
праўдападобна.

6.
На выйсьці
машынальна падаеш міласьціну
музэйнаму супрацоўніку.

## Французская рэвалюцыя

*Вершы з аптымістычным фіналам*

1.

Французская рэвалюцыя
на апошнім паверсе музэя Карнавале
абудзіць і самых сонных наведнікаў.

Дзьве статуі – Свабода і Роўнасьць.
Грудкі Роўнасьці
прыкрытыя тканінай аднолькава.

Карціна з руінамі Бастыліі.
У наступнай залі – падрабязны макет Бастыліі.
(Рукамі не чапаць – глядзі папярэдні экспанат.)

Рэспубліканскі тэрмомэтар
у фрыгійскім каўпаку.
Патрыёт з адарванай правай рукой
робіць эфэктны жэст левай.
На іншай карціне іншыя патрыёты
сьпяваюць патрыятычную песьню.
Словаў не чуваць.

Шарлота Кардэ, з кінжалам.
Жан-Поль Марат, з ваннай.
Максыміліян Рабэсп’ер, з Дантонам.

Людовік XVI, з Марыяй Антуанэтай.
Марыя Антуанэта, у жалобе па мужы.
Галава Марыі Антуанэты.

Цацачная гільятына.
Можна ўжываць замест мышалоўкі.
Шмат рэвалюцыйных лёзунгаў.
Можна ўжываць замест бясплатнага сыру.

Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна.
“Людзі нараджаюцца і застаюцца
свабоднымі і роўнымі ў правах”.
Я памылкова прачытаў па-французску:
“нараджаюцца і паміраюць”.

У музэйнай крамцы – пазл з Марыяй Антуанэтай.
54 кавалкі.
Можна прыстаўляць і адстаўляць
ня толькі галаву.

Рэвалюцыйны посуд. Фаянс.
Набор талерак з дэвізам: “Свабода або сьмерць!”
Смачна есьці!

2.

У садку насупраць музэя
трахаюцца два сабачкі,
гаспадары ўсё ніяк ня могуць
расьцягнуць у розныя бакі.

Нічога цікавейшага ў музэі
я ня бачыў.

* * *

Два геі між Луўрам і Плошчаю Згоды
Ўступілі за трэцяга ў бой…
Парыж – гэта сьвята, якое заўсёды.
Але не заўсёды з табой.

* * *

Субота. Ранак. Дождж. У Люксэмбурскім садзе
вітаецца здалёк з Бадлерам Элюар.
Кляшар у паліто з кішэнямі на задзе
выкідвае багет, каб іншы зьеў кляшар.

У галаве гучаць знаёмыя матывы.
Стакроткі й дзьмухаўцы бамжуюць між газонаў.
На тратуары там і тут прэзэрватывы
і скарыстаныя чахлы ад парасонаў.

## Парыскія мужчыны

У мужчыны з Парыжу – харызма і шык,
нос, багет і шалік на шыі.
Хто бяз шаліка, той не парыскі мужык,
і бязносыя тут – чужыя!

Ён ідзе й не кранае багетам зямлі,
выкшталцоным сталічным крокам,
а жанчыны з усіх ускраін зямлі
сочаць – пэрыфэрыйным зрокам...

## Сержу Гензбуру

Як ні ўцякалі ад лёсу твае
Гінзбург-тата і Гінзбург-мама –
Піцер, Стамбул, Парыж, –
рідна нэнька дагнала Гензбура:
за дзесяць крокаў ад дому
ўкраінцы шыбуюць да храма,
за дваццаць пяць ад магілы –
Сымон Пятлюра!

## Футбол ля музэя Радэна

За плотам музэя гуляюць французы ў футбол.
Крычаць, аж чутно праз навушнікі аўдыёгідаў.
І з кожным ударам жыцьцё замірае наўкол,
і, нібы табло, зьзяе золатам шпіль Інвалідаў.

Турысты ў музэі наструніліся – хто каго?
Глядзяць цераз плот – і стаяць без увагі скульптуры,
самотны Бальзак і ў абдымках дзьвюх дзевак – Гюго,
тытаны культуры на сьвяце фізычнай культуры.

Мысьляр знакаміты ад зайздрасьці пазеляне́ў,
хаваючы вочы, падпёр падбародзьдзе рукою.
“Нашто цалавацца?” – адчулі каханкі сумнеў.
Прыкрылася Ева: “Вы дзе, гледачы? Што такое?”

Старэнькі японец здымае на камэру матч.
Арабка ўздыхнула. Відаць, за Радэна заўзее.
Мысьляр ледзь ня плача. Філёзаф, хоць ты патлумач,
як блякла на фоне жыцьця выглядаюць музэі!

Спорт нумар адзін і арабку схіліў на свой бок,
і дзеда-японца, і там, ля плятану, путану,
што косіць пад экскурсаводку. Ці гэты радок
хоць неяк паможа Радэну даць рады Зідану?

Удар. Гол у браму мастацтва. Жыцьцё павяло.
Татальны футбол пераможную сэрыю выдаў.
Разьбегліся хмары, і сонца гарыць, як табло,
ўсьміхаючыся з Інвалідаў. З усіх інвалідаў.

* * *

Ехаў казачнік-бай
па бульвары Распай
да бамонду ў кавярню “Ратонда”:
там зь відэльца й нажа
усьміхаецца джа –
скарачэньне ад слова “Джаконда”.

Круціць з бронзы касяк
Анарэ дэ Бальзак
у плашчы ад Агюста Радэна.
Ёсьць на цэлы бульвар
эксклюзіўны тавар,
а тапельцам – бясплатная Сена.

Дастаўляе трава
з Манпарнасу ў Менск-2,
зь перасадкай у Шарля дэ Голя.
І ні да, ні пасьля:
прэзыдэнт Нікаля –
проста хлопчык па імені Коля.

І ніхто не памрэ,
бо з травой Анарэ
ўсе памерлі яшчэ да народзін...
Па бульвары Распай
едзе казачнік-бай:
“Баяць казку?” Ня хоча ніводзін.

# Пост-Мірабо

Пад мостам Мірабо сплываюць вершы
Парыжам
Захлынуўшыся й памершы
І гэты не апошні і ня першы

Каханьне соплі Вершы трэш
Мост выжыве а ты памрэш

Пад мостам Мірабо шукаць прыгоды
Няма дурных
Сумуюць параходы
Ля карлікавай Статуі Свабоды

Ды ёсьць сюжэты навырост
Хацеў паплакаць выйдзе тост

Пад мостам Мірабо гамон кляшару
Здаецца
Холад зь ветрам далі жару
Усім няўдачнікам зямнога шару

Чужынцаў выдае акцэнт
Кавярня Прыцемкі Абсэнт.

Над мостам Мірабо як прывід лесу
Лес хмарачосаў
Ты хацеў прагрэсу
Глядзі ж паэт і не памры ад стрэсу

Усё цячэ пад гэты мост
Сплыў мадэрнізм сплыве і пост

*P. S.*

Твой верш ня зьменіць сьвету – аксыёма
Але ёсьць мост
І новы клон Гіёма
Над рыфмай вар'яцее пакрыёма

Сам-насам з мостам Мірабо
Слабо пра мост? А не слабо

*Парыж, красавік 2012*

Ганс Ляйп

## Лілі Марлен

Перад казармай,
дзе ўначы ліхтар
ліў сьвятло на твар мой
і табе на твар, –
зноў бы стаяць, безь перамен,
пад ліхтаром, ля гэтых сьцен,
з табой, Лілі Марлен.

C–G
G7–G–C–C7
F–C
G–C
G7–G–C
G–G7–C

Нашыя два цені
зьліліся ў адзін.
Мроі-летуценьні
й не стае гадзін.
Глядзі, хто прагне палкіх сцэн,
як мы ўсю ноч ля гэтых сьцен
з табой, Лілі Марлен.

Я пасьля адбою
мчуся да цябе.
Хай мне сьвеціць трое
сутак на “губе”,
буду ўсю ноч, як верны цень,
ізноў стаяць ля гэтых сьцен
з табой, Лілі Марлен.

Бачыў тваю постаць,
слухаў кожны крок,
ды каханьне помсьціць,
нават незнарок...
І хто цяпер, мяне ўзамен,
пад ліхтаром, ля гэтых сьцен,
з табой, Лілі Марлен?

Зь цемрадзі і згубы,
з роспачы на дне
клічуць твае губы,
нібы ў сьне, мяне.
Хай зноў любоў кранецца вен,
і буду зноў ля гэтых сьцен
з табой, Лілі Марлен.

G7-C-G7-C
C#dimi-G7-C-G7-C
F-C7-F
F-C7-F-C7-G

Клаўс Рыхтэр

## Разамунда

Заўсёды, паўсюдна
У думках Разамунда,
Мне сонца сьвеціць мутна,
Як любай ня чутна.
Мне мрояцца вусны
З усьмешкаю спакуснай,
Што мне ў падарунак
Дараць пацалунак.

Лёс другога шанцу не дае,
Сёньня ўночы крочу да яе,
Вазьму дзяўчыну за руку
І шчырым словам апяку.
А калі яна мне скажа “не”
Ці зірне сувора на мяне,
Яшчэ пяшчотней абдыму,
Каб зразумела, што й чаму.

Разамунда, я на апошняй мяжы!
Разамунда, маме пра нас не кажы...
Разамунда, проста застанься са мной!
Маё сэрца, Разамунда,
Б’ецца для цябе адной!

Ня сплю на дасьвецьці,
Чакаю на зьмярканьні,
Бо я хачу каханьня,
Як кожны на сьвеце.
Маўклівай фіялкай
Я сохну зь ёю поруч,
Ды загоіць горыч
Позірк ейны палкі.

Лёс другога шанцу не дае,
Сёньня ўночы крочу да яе,
Вазьму дзяўчыну за руку
І шчырым словам апяку.
А калі яна мне скажа “не”
Ці зірне сувора на мяне,
Яшчэ пяшчотней абдыму –
Каб зразумела, што й чаму.

Разамунда, я на апошняй мяжы!
Разамунда, маме пра нас не кажы...
Разамунда, проста застанься са мной!
Маё сэрца, Разамунда,
Б’ецца для цябе адной!

## Вайна і мір

Лацінаамэрыканцы
якраз пачыналі мяне біць,
але, убачыўшы яго,
разьбегліся.

І ня дзіва: ён быў на галаву вышэйшы за мяне
і як мінімум удвая таўсьцейшы,
у маленечкіх акулярах,
што толькі падкрэсьлівалі яго памеры:
проста нейкі Сяргей Бандарчук
сярод дэкарацыяў свайго Барадзіна
ці хутчэй Ватэрлёо,
бо ўсё адбывалася якраз у Бэльгіі.

Ён чамусьці адразу загаварыў са мной па-расійску,
быццам на мне было напісана,
што я ведаю, хто такі Бандарчук.

“Дарма ты зь імі размаўляў, – сказаў ён. –
Гэтыя маглі б і зарэзаць”.
“Калі б маўчаў, – адказаў я, –
дакладна б зарэзалі.
Тут як на заліку”.

“Залік, – сказаў ён. –
Мяне завуць П’ер. Як Бязухава”.
“А мяне Андрэй. Як Балконскага”.

Рэшту ночы памятаю ня вельмі.
“Трапісты”! – раз-пораз паўтараў ён. –
Найлепшае ў Брусэлі піва – гэта “Трапісты”!

Хадзем, пакажу адно месца,
плаціць граф Талстой”.

“Дык ты не з Расіі?
Зь Беларусі? Яшчэ лепей!
Я там з жонкай пазнаёміўся”.
“Я таксама”.
“Але мая – японка, уяві. Вучыліся разам расійскай,
а навучыліся... яна – францускай, а я – японскай.
Бальзак і маленькая японка, ведаеш кіно?
Беларусы, кажа яна, – гэта такія расійцы,
толькі са знакам якасьці”.

“Кітаянка”, – паправіў я.
“Хто? Мая жонка?”
“Я кажу, Бальзак і маленькая кітаянка.
Кітайцы – гэта такія японцы,
толькі са знакам колькасьці”.

Тут ягоны фільм абрываецца,
а мой круціцца далей.
Мы ў аўто, як у маленькай кіназалі:
на заднім шэрагу – Чып і Дэйл, два героі-бандарчукі,
сьпяшаюцца на дапамогу трапістам,
а жонка-японка за стырном займаецца пракатам.

Наш вандроўны кінатэатр
усё бліжэй да апошняга бровара,
дзе найсьвяцейшыя манахі
вараць піва са знакам якасьці,
якое разьвязвае языкі так,
што выгнаньнікі ўсіх краінаў
разумеюць адно аднаго без субтытраў.

## Памежжа

На памежжы Польшчы й Літвы,
дня і ночы,
возера і чароту,
ты вяслуеш за сонцам,
ловячы носам чоўна
залатую сьцяжынку
ў вадзе,
у якой яшчэ адбіваецца неба –
паўсюль, акрамя палоскі,
у якой адбіваецца лес.

Заплываеш у лес
адным бортам,
а другі
застаецца ў небе.
І вясло хаваецца ў дрэвах,
а другое вясло –
у аблоках.

## Калюмбійскі дывэртысмэнт

### 1. Зайздрасьць

“Божа, як танчаць калюмбійцы!”

Крыху падумаў і дадаў:
“Я хацеў бы пісаць вершы так,
як танчаць калюмбійцы!”

Яшчэ крыху падумаў і дадаў:
“І проста танчыць, як калюмбійцы,
таксама хацеў бы!”

### 2. Правілы дарожнага руху

На скрыжаваньні спыняецца матацыкл.
Кіруе дзяўчына ў шаломе.
Ашаламляльна прыгожая.

Ззаду хлопец без шалома.
Сядзіць і –
з рызыкай для жыцьця –
не трымаецца за яе.

І ўсе калюмбійцы навокал
стаяць і думаюць:
“А я б за такую трымаўся.
Нават з рызыкай для жыцьця!”

### 3. Сымбаль міру

У самым сэрцы Калюмбіі,
на авэню El Colombiano,
галубка сядае на дах,
а голуб – на галубку.

Тут магла быць мараль:
“Make love, not war!”

Але і безь яе ўсё робіцца правільна!

ліпень 2008

## Шаўковы шлях

– А вы ўмееце
паказваць пэрформансы? –
спытала яна паэта
у вагоне мэтро
на станцыі "Шаўковы шлях".

– Яшчэ б! – адказаў ён. –
Мяне нават пасялілі каля цырку,
у былым інтэрнаце для цыркавых артыстаў.
Едзем са мной, пакажу!

– Не,
вы лепш пэрформанс пакажыце.

Ён паказаў.
Яна доўга й гучна пляскала
яму па твары.

Потым раптам пагадзілася.

А ён зьдзівіўся так,
што ўвесь шлях да цырку
быў як шаўковы.

*чэрвень 2014, Алматы*

## Кожны чацьверты барсэлёнскі голуб

Кожны чацьверты барсэлёнскі голуб –
папугай.
Кожны трэці – партовая чайка.
Кожны пяты – малюнак Пікаса,
што лётае па горадзе,
покуль музэй зачынены.

Папугаяў лёгка адрозьніць
па гучных крыках:
“Rebaixes! Rebaixes!”

## Музэй эротыкі

Чайка з паветраным зьмеем
высока над хвалямі
вынаходзяць усё новыя позы
для паветранага пацалунку.

А я, нахлябтаўшыся
міжземнаморскай вады,
шчыра крычу ім:
“Горка!”

## Парк атракцыёнаў

Толькі паглядзі на Сьвятое Сэрца.
*Леанард Коэн*

Высока-высока,
на самай гары Тыбідаба,
вышэй за ўсю Барсэлёну,
вышэй за вінтажны блакітны трамвай,
вышэй за кошты футболак “Нэймар” і “Мэсі”,
вышэй за кола агляду
з усім гэтым сьмешным паркам атракцыёнаў,
вышэй за апосталаў на галерэі ля вежаў, –
стаіць, узносіцца, зьзяе.

А ты, што забраўся да самага верху, да Збаўцы,
таксама зьзяеш ад шчасьця,
а потым – глядзіш і разводзіш рукамі:
які недарэка даўмеўся паставіць гэтае кола агляду,
гэты чырвоны стары самалёцік на палачцы,
гэтыя рускія (амэрыканскія) горкі –
проста перад бажніцай Сьвятога Сэрца?!

І раптам усё разумееш. Каб кожны
убачыў свой парк з адпаведнае пэрспэктывы,
бо ўласнае кола агляду пашырылася ў разы:

яшчэ не выходныя, але публікі – не прадыхнуць,
наведнікі храму здзіўлена бачаць парк,
а наведнікі парку – храм,

хлапец задзірае дзяўчынку,
а вецер – яе сукенку,
рускі (ці амэрыканскі) турыст
зараз зваліцца з амэрыканскіх (ці рускіх) горак,
вагончык робіць віраж,
самалёцік на палачцы круціцца,
дзеткі шалёна крычаць,
але ўрэшце, як гэта ні дзіўна,
усё абыходзіцца.

Збаўца разводзіць рукамі.
Ніхто не разьбіўся,
а сэрца б'ецца.

*ліпень 2014, Барсэлёна*

## Мульці-кульці

Прыгожы драўляны мячэт,
зроблены са старой пагады
кітайскіх перасяленцаў.

“Мі-мі-мі, мой кудлацік,
які ж ты харошы,
ну, скажы мне што-небудзь,
скажы!” – зьвяртаецца
зьдзяцінелы ад шчасьця прафэсар
да прывязанага побач ягнятка
на мове эспэранта,

а потым:
“Сукі, што яны робяць!” –
бо ягнятку якраз перарэзалі горла.

Прафэсар гадзіну маўчыць,
а потым на знак пратэсту
зрывае яблык у садзе
ля праваслаўнай,
таксама драўлянай, царквы.

Ніхто ня гоніць блюзьнерцу з саду.
Ніхто ня паліць маланкай
ні царквы, ні мячэту.
Ніхто ў апошнюю хвілю
не замяняе ягнятка
вэгетарыянскай стравай.

*кастрычнік 2014, Кыргыстан*

## Corazón de Venezuela

Учора я ўбачыў сацыялізм
з чалавечым тварам:
твар быў смуглявы
і належаў каракаскаму палісмэну.

Я спытаў дарогу.
Ён паглядзеў так сувора,
што я падумаў: прыб’е!
Але ён проста пасадзіў ззаду
на свой матацыкл – і павёз,
падразаючы машыны і аўтобусы так,
што мая торба чаплялася за іх люстэркі.

Ён лавіруе са мной у дарожных заторах,
дапамагаючы сабе кляксонам,
а калі кляксон не дапамагае,
паказвае кіроўцам
свой пісталет у кабуры.

“Ён жа яго не дастане, –
пераконваю я сам сябе. –
А калі дастане, то ня стрэліць.
А калі стрэліць, то, праўда ж, толькі ў паветра.
А калі не ў паветра, то толькі
па колах машынаў...”

Раз-пораз нам трапляюцца графіці
з надпісамі “Уга Чавэс – сэрца Вэнэсуэлы”
і “Уга Чавэс можа ўсё”:

Уга Чавэс закідвае баскетбольны мяч,
Уга Чавэс вырашае складанае пытаньне па тэлефоне,
Уга Чавэс кіруе матацыклам.

Мой палісмэн можа яшчэ больш,
бо адной рукой кіруе матацыклам,
а другой трымае мабільны тэлефон,
часам паварочваючыся да мяне
са словамі “don’t worry”.

Я беларускай мовай прашу яго
не размаўляць па тэлефоне.
“Даль-ка-жык!” – радасна паўтарае ён за мной,
і маё шчасьце робіцца такім абсалютным,
што гэты верш проста павінен
скончыцца патасна.

Бо на самых крутых паваротах
матацыкл нахіляецца амаль да зямлі,
а я штосілы прыціскаюся да свайго кіроўцы,
адчуваючы праз грудную клетку,
як моцна б’ецца сэрца
маёй Вэнэсуэлы.

*P.S.*

Назаўтра знаёмыя вэнэсуэльцы
скажуць, што мне моцна пашанцавала,
бо ён такі мог прыбіць.

## Museo de los niños

Музэй дзяцей
найлепей наведваць зь дзецьмі –
чужых паглядзець,
сваіх паказаць.

Экспазыцыя – не галоўнае,
галоўнае – добра прабавіць час,
пакуль твае дзеці
ня прыйдуць сюды са сваімі дзецьмі,
а ты ідзі куды хочаш,
напрыклад, у іншы музэй.

На першым паверсе – аснова, падмурак,
усё пра Зямлю, то бок збольшага Вэнэсуэла
і трохі ейных ускраін.

Вышэй – біялёгія, фізыка, экалёгія,
адаптаваныя для дзяцей –
так добра, што нават дарослыя разумеюць.

Вось, скажам, love story ў коміксах:
на першым малюнку дзядзя цалуе на лавачцы цёцю,
а на другім іх расьпісвае строгі чыноўнік
(ніякіх вянчаньняў),
на трэцім анёлак трымае сэрца над ложкам,
а на чацьвертым дзядзя мацае цёці жывот,
на пятым цёця ў разрэзе, а ў жываце –
новы наведнік музэя, Show Must Go On…

Ты так захапіўся,
што не заўважыў, як выйшаў з музэя,
а думаў, што ўсё яшчэ тут,
праходзіш па залях, якія
робяцца ўсё цікавейшымі.

Вось алькагольная крама
зь дзіцячымі экспанатамі,
якія даводзяць маленькім наведнікам
шкоднасьць сьпіртных напояў –
бачыш, што робіцца з бацькам,
рабі высновы.

Вось цэлая рота вайскоўцаў,
і ўсе з карабінамі,
гэта музэй сумяшчае прыемнае і карыснае:
трохі гульні ў вайнушку,
трохі асноў пацыфізму.

Вось дзеўкі ў кароткіх спадніцах,
яны – каб давесьці малым,
што іхныя таты кахаюць выключна мамаў:
глядзіце, ідуць і нават ня косяць вачэй у іх бок...
Ці ўсё-такі косяць?

А вось дарожны затор – дзіцячы аўтобус
расплюшчыў дзіцячую легкавушку,
бо першы кіроўца касіўся на дзевак,
другі ўжыў музэйны напой.
Першы будзе сядзець у дзіцячай турме,
а другі, да канца жыцьця, – у музэйным
інвалідным вазочку.

А ПРОСТА НАД МЕСЦАМ АВАРЫІ –
ГІГАНЦКІ ПАРТРЭТ ТАГО,
ХТО ЎСІХ ІХ ПРЫВЁЎ У ВЯЛІКІ МУЗЭЙ ДЗЯЦІНСТВА,
ВОСЬ ТОЛЬКІ НЯ ЗМОГ ДАЧАКАЦЦА ДЗЯЦЕЙ ДЗЯЦЕЙ,
СЫШОЎ – І ЯНЫ СВАВОЛЬНІЧАЮЦЬ ЯК МОГУЦЬ:
БУХАЮЦЬ ПРОСТА Ў МУЗЭІ,
СТРАЛЯЮЦЬ АДНО Ў АДНАГО,
БЯГУЦЬ АД ЖОНАК ДА ШЛЮХ,
РАЗЬБІВАЮЦЬ АЎТОБУСЫ ЎШЧЭНТ,
КАРАЦЕЙ –
ПАВОДЗЯЦЦА НІБЫ ДЗЕЦІ.

*25–27 сакавіка 2013, Каракас*

Яцак Качмарскі

## Наша кляса

Раскажы, што з нашай клясай? –
Піша Павал з Тэль-Авіву.
Цяжка выжыць гэтым часам,
Каб сумленна – і шчасьліва.
Раскажы, што з нашай клясай?
Чэсь – у швэдзкім порнаклюбе,
Зарабляе шмат сам-насам
Тым, што ўсе сам-насам любяць.

Dm
A7
Dm
A7
F
C
Dm
A7
Dm-Gm-A7-Dm

Грамадзянамі Канады
Хутка будуць Пётр і Кася,
Ян у Францыі даў рады,
Бася ў Штатах засталася.
Марта з двойняй пад Варшавай,
Церазь месяц будзе трэці.
Час валіць – з такой дзяржавай
Ёй нічога тут ня сьвеціць.

Магда зьехала з гішпанцам
І ў Мадрыдзе мэдсястрою.
А Мацея два паганцы
З табэльнай забілі зброі.
Магда сябравала зь Юркам,
Што быў зоркай школьнай сцэны.
Юрка добрым стаў хірургам,
Але брат яго ўскрыў вены.

Філ стаў фізыкам, вядома,
І ў Маскве зрабіў кар’еру.
Кожны год бывае дома,
Сябра нашаму прэм’еру.
А Міхась у турмах высах,

Бо ня стаў страляць у Стася.
Я ж складаю жыцьцяпіс іх.
Вось і ўсе, хто быў у клясе.

Хтосьці зьехаў, хтосьці ў Польшчы,
Хтосьці заўтра – у дарогу,
Хтосьці ўжо даўно нябожчык,
Хтось жывы – і дзякуй Богу!
Я зьбіраў усіх старанна,
Я праводзіў паралелі,
Быццам сыпаў соль на раны,
Раны моцна не балелі.

Сталі жонкамі дзяўчаткі,
Хлопец – дзедам. Хутка фініш.
Маладосьць паўзе спачатку,
А пасьля яе ня спыніш.
Кожны – бог у свае сорак,
Сьпім даўно ў сваёй пасьцелі.
Нібы ўсе ляцім да зорак,
А ці гэтага хацелі?

Што са мной? Пра што я мару?
Памяць мучае старая,
Быццам мацае іх твары
І ўсьляпую паўтарае
Ўсе дзіцячыя абліччы,
Ды малюнак – нетрывалы.
Я ж чакаю, хто пакліча
Ў хованкі ці ў выбівалы...

Прарастаючы паволі,
Кожны цягне што ёсьць сілы
Лісьце, парасткі і гольле
Ад калыскі да магілы,
Каранямі – з таго сьвету,
Хтосьці ўправа, хтосьці ўлева...
Аж ня верыцца, што гэта
Ўсё – адно і тое ж дрэва.

Am-G-F-E-Am-E-Am
Am-G-F-E-Am-E-Am
Dm-Am-E-Am-A7-Dm-E-Am

## Лімэрыкі пра народы

*(фрагмэнты)*

Ангелец рашыў: "Пасябрую з індусам!",
Зь вялікай сымпатыі, не пад прымусам.
А той яму шчыра
Нясьвежага сыру
Падаў на дзіравым абрусе.

Такую абразу прабачыць – бяз шанцаў,
Ангельцу ня трэба сяброў-галадранцаў:
У крыўдзе на парый
Шукаў сабе пары
Выключна ў паўночных ірляндцаў.

Народы, народы! На д'ябла народы
Ідуць на вайну дзеля міра і згоды?
Чым болей змаганьня, тым меней свабоды:
Хацелі як лепей, ды ўсё як заўсёды!
Народы, народы, народы...

Настаўнік-француз меў студэнтку з Марока:
Пілі кальвадос пад шэдэўры барока,
Ды музыка зранку
Нагадвала п'янку,
Вучыць мараканку – марока!

На гэта французу сусед яго, сьлесар:
"Зусім не патрэбны, шаноўны прафэсар,

Тваёй мараканцы
Ні песьні, ні танцы:
Яна – патэнцыйны агрэсар!”

Народы, народы…

Кітаец японцы адкрыў сваё сэрца,
Любоўныя вершы даслаў на паперцы.
Адказ праз два дні:
“У люстэрка зірні,
Касы жаўтаскуры блюзьнерца!”

Кітаец адпомсьціць бяздушнай кабеце –
Зрабіўся стралком самым лепшым на сьвеце.
Наведвае цір,
Ды зь Японіяй – мір…
І з гора страляе ў Тыбэце.

Народы, народы…

Сынгал палюбіў свайго сябра-таміла,
Хоць іх на Шры-Ланцы вайна падзяліла,
Ды ведае й слон
На высьпе Цэйлон:
“Сяброўства – вялікая сіла!”

Дарэчы, сланы партызаніць фанаты
У тыле варожым пад шум кананады.
Сынгал сумна кажа:
Слана й не заўважыў,
Што скраў для таміла гранаты!”

Народы, народы...

З габрэем хацеў сябраваць палестынец,
Навёў аўтамат і гаворыць: “Гасьцінец
Мой шчыры лаві,
Я твой брат па крыві,
Хоць кажуць: банальны злачынец!”

Габрэю ж падказвае вышні дарадца,
Што лепей жывому дадому дабрацца.
Габрэй яму: “Браце,
Пры вашай зарплаце
Ізраіль ня дасьць табе працы”.

Народы, народы...

Лівіец, хоць жонак меў трох, мусульманак,
Чацьвертую з Чаду прывёў на свой ганак,
З жыхаркаю Чаду
Такога даў чаду –
Штовечар, штоноч і шторанак.

А ў паўзах ёй вершы чытаў аб жырафе,
Але суайчыньнікі зь іншай парафіі
Юную кралю
Ў лівійца забралі,
Бо так загадаў ім Кадафі.

Народы, народы…

Расіец грузіна за сьпеў яго звонкі
Любіў нават болей ад любае жонкі,
Ды дружбе – хана,
Бо расіец віна
Ня піў, а грузін – самагонкі.

Расіец тады напісаў ананімку,
І сябра ягоны з кайлом у абдымку
Год дзесяць правёў
У найлепшым з краёў,
Дзе холадна ўлетку і ўзімку.

Народы, народы…

Паляк-патрыёт пры гарэлкавай скрынцы
Пра згоду казаў патрыёту-ўкраінцу,
Так, слова за слова,
Дайшлі аж да Львова –
І грызьліся, як у зьвярынцы.

Калі ж у турму загрымелі абое,
Адзін пагражаў: “Яшчэ маем набоі!”
Другі цераз краты
Крычаў: “Жыд пархаты!
Яшчэ разьбярэмся з табою!”

Народы, народы! На д’ябла народы
Ідуць на вайну дзеля міра і згоды?
Чым болей змаганьня, тым меней свабоды:
Хацелі як лепей, ды ўсё як заўсёды!
Народы, народы, народы...

Ах, каб не было тых народаў на сьвеце,
Жылі б на зямлі, як шчасьлівыя дзеці,
Ня ведалі б зайздрасьці, крыўды і злосьці,
І хтосьці так моцна любіў бы кагосьці –
Аж з трэскам ламаліся б косьці!

## Бобу Дылану

D-F#-Hm
G-A-D
D-F#-Hm
G-A-D

Сьпяць прастора і час,
Толькі зрэдку на нас
Акіян шэрай хваляй нахлыне.
А ты хочаш ісьці
Да нязьведанасьці,
Па-за нашыя хвалі і плыні.

D-G-A-D
D-G-A
G-D-F#h
G-A-D

Падарожжа па снох,
Бо нашто пара ног?
Каб трымацца бясконца ў той гонцы:
Басанож па траве,
Што расьце ў галаве
І навосьлеп кіруе па сонцы.

D-G-A
D-G-A
G-D-F#-Hm
G-A-D

За табой ці канвой,
Ці прэзыдыюм твой,
Нэафіты каханьня і волі:
Быць з табой хочуць там,
Дзе ты мусіш быць сам,
Бо з канвоем ня будзеш ніколі.

D-G-A-D
D-G-A
G-D-F#-Hm
G-A-D

Хто мог знаць, што ўсур'ёз
Ты прарочыў ім лёс,
А ня проста – нажлукціўся гуру?
Адбіваючы рытм,
У тым рытме гарым
Роўным полымем безь перакуру.

Ім даўно ўсё адно,
Твая кроў ці віно,
Ім галоўнае – зь першакрыніцы.
Ды ня сьніцца ім сноў,
А ты вучыш іх зноў,
Не бывае таго, што ня сьніцца.

З тых паломнікаў чвэрць
Пра тваю марацьсьмерць,
Рэшце трэба прыколаў і жартаў.
Ты ня пастыр іх душ,
Дык пакінь іх і руш
Па-за контуры мечаных картаў.

Хай твае сябрукі
Паляць зноў маякі,
Што нікому сьвятла не давалі.
А ты, вольны, як верш,
Супраць хваляў плывеш
І павалі сам робісься хваляй.



# III

Ехаць да мора...

## Яна і я

ЯНА ЎВОЙДЗЕ ПА ЛЫТАЧКІ Ў МОРА – І ЎВЕСЬ ПЛЯЖ ГАЛОВЫ ПАВЕРНЕ
НАВАТ ХВАЛІ ЗА ЁЮ СЬЛЕДАМ ПАВАРОЧВАЮЦЦА КРЫХУ
КАЛІ ВЕЦЕР ЯЕ СУКЕНКУ РАПТАМ ЗРОБІЦЬ ЯШЧЭ ПАВЕТРАНЕЙ
І ДЗЯЎЧАТЫ БОЙФРЭНДАЎ ЗАКОПВАЮЦЬ У ПЯСОК – ДАЛЕЙ АД ГРАХУ

І ЯНА РАЗУМЕЕ, ШТО Я РАЗУМЕЮ, ШТО РУХІ ВЕТРУ ПАПРАЎДЗЕ
АДПАВЯДАЮЦЬ МАІМ, А МАГЧЫМА, І ЕЙНЫМ ПЛЯНАМ
І БАКЛАНЫ ЛЯТУЦЬ, ЯК ДАІШНІКІ, НА СЬВЯТЛО ЯЕ СРЭБНАГА “АЎДЗІ”
І, МАХАЮЧЫ ЁЙ НАЎЗДАГОН, Я СЯБЕ АДЧУВАЮ БАКЛАНАМ

І ЗЬБІРАЮ СНЫ, ЯК КАМЕНЬЧЫКІ ЗЬ ДЗІКІХ НУДЫСЦКІХ ПЛЯЖАЎ
І НАЙЛЕПШЫ РАСТАЎ У РОЦЕ, НІБЫ РЫСКАЯ КАРАМЕЛЬКА
І Я ПЛАВАЎ ДА РАНКУ Ў ІМ ТАК, БЫ Ў ВАДЗЕ НІЧОГА НЯ ВАЖЫЎ
А НАЗАЎТРА КРОЧУ ТАНЦУЮЧАЙ ЛЁГКАЙ ХАДОЮ ПАХМЕЛЬНІКА

І ФАНТАЗІЯ, КРЫЛЫ ЗГАРНУЎШЫ, У ІНВАЛІДНЫ СЯДАЕ ВАЗОК
І ЗЬ МЯНЕ ПАЧЫНАЕ СЫПАЦЦА ДРОБНЫ БАЛТЫЙСКІ ПЯСОК

* * *

Тут рыскі бальзам проста капае з крану
і п’яніцаў робіць крылатымі,
і ты – нібы рыцар, бо нават у краму
ідзеш, патрасаючы латамі.

Надвор’е такое, што дворнікаў пару
прыладзіў бы на акуляры,
і ты перабежкамі з бару да бару –
здаецца, жывеш проста ў хмары.

А ў моры купаюцца дзеўкі чужыя...
Пільнуйце, адэпты маралі!
І водарасьці на руках і на шыі,
як фенечкі і каралі.

На сонца глядзіш цераз пырскі вады,
на вейках вісіць па вясёлцы,
а ты нецьвярозы і шчэ малады,
нібыта сьнягурка на ёлцы.

Раскочвай губу, не глядзі на табу:
жыцьцё паднясе табе чарку –
і разам з табой вылятае ў трубу
прыморскага аквапарку.

* * *

Ад раніцы вецер са сьвістам
пахмельнікаў б'е проста ў твар,
зьдзьмуваючы з дупаў нудыстам
апошні чырвоны загар.

Вятрыска цячэ супраць плыні,
і – двойчы ня ў тую раку! –
як п'яны караблік пустыні,
ты прэш супраць плыні пяску.

Чапляючы целам сьцяблiны,
брыдзеш супраць плыні травы,
а сонца заходзіць са сьпіны
і паліць, як вырабы з гліны,
усё, што ніжэй галавы.

І месіцца слоўная гліна,
і ты ёй гаворыш: "Жыві".
І лодачка адрэналіну
плыве супраць плыні крыві.

## Першая сустрэча

Ён шукае ў кішэні ключы ад свайго спартовага ровара.
Яна забівае стрэлку зь сяброўкай ля найбліжэйшага бровара.

Ён шчасьлівы, бо толькі ўчора адрэгуляваў сядло.
Яна зьлёгку нэрвуецца – дома скончылася бухло.

Ён вырашае зрабіць яшчэ кола для трэніроўкі.
Яна заўважае лічбавы фоцік на шыі ў сяброўкі.

Ён збочвае і вырульвае на вядомую ў горадзе статую.
Яна пасьля піва просіць сяброўку сфоткаць яе, паддатую.

Ён заўважае яе на ўзьбярэжнай, каля самай вады.
Яна бачыць, што нехта на ровары рухаецца не туды.

Ён параўняўся са статуяй – каровай пяцімэтровай.
Яна прыняла сэксуальную позу, каб не здавацца каровай.

Ён глядзеў, як яна выгінаецца маладой грацыёзнай коткай.
А яна казала сяброўцы: “Чаго ты чакаеш, фоткай!”

Залаты заручальны пярсьцёнак на ейнай руцэ –
апошняе, што ён убачыў, перад тым як паплыў па рацэ.

Ён падумаў: “Тваю за нагу, ну за што мне гэта няпруха!”
А яна: “А ён мог быць нічога, каб ведаў правілы руху”.

* * *

Змагаесься з рыфмаю лоўка й даўно,
брыдзеш у лірычныя топі.
А хтосьці тым часам залезе ў акно
й сядзіць у цябе на лэптопе.

Дзюймовачка-муза наведала дом
з натхненьня галяндзкай заначкай?
Наведнік акажацца шэрым катом,
а мог бы і белай гарачкай.

* * *

Бывай, свабодная стыхія!
Пагналі нашых гарадзкія.
Цяпер замучыць настальгія,
як злосны карлік на мяжы.
Я палюбіў твае даброты,
я еў з тваёй далоні шпроты.
Мне сьняцца гэтыя шыроты,
але мясцовым не кажы.

Я да цябе імчаўся зранку,
ды ўбачыў юную засранку –
і з ровара аб брукаванку!
(Цяпер кульгаючы хаджу.)
Я трапіў у твае ўлюбёнцы,
штотыдзень абгараў на сонцы.
Твае музэйныя лівонцы
мяне хавалі ад дажджу.

Даруй, свабодная стыхія,
што рэдка плаваў за буйкі я
і што бывалі больш бухія,
чым сарамяжлівы твой госьць.
Герой наступнага куплета
прыедзе зноў сюды налета –
абараніць імя паэта
і паказаць, якім ён ёсьць.

Ён прывязе з сабою грэлку,
а ў ёй айчынную гарэлку
і ўвечары прызначыць стрэлку
твайму чырвонаму стралку,
як недарэку зь недарэкам,
з такім адборным саўндтрэкам
аб нечым непаліткарэктным,
каб чулі аж на маяку.

Дашлі ў бутэльцы запрашэньне,
а я спыняю галашэньне,
бо маю поўныя кішэні
тваіх бяздомных мурашоў.
Хай іншы крумкае крамолу
у рыфмах грубага памолу
з майго намоленага молу...
Бывай, стыхія! Я пайшоў.

## Доўгая дарога дадому

Хораша вяртацца дамоў,
калі едзеш зь дзьвюма перасадкамі,
а на кожным перагоне з табой адзін і той жа
выпадковы спадарожнік.

“Ну што ты мне даеш такімі дробнымі,
прынізіць мяне хочаш ці што?!” –
крычаў ён на цётачку ў вакенца абменьніка
ля рыскага аўтавакзала.
“І яшчэ так зіркае, чаго зіркаеш,
панаехала тут да нас у Латвію”, –
бурчаў ён на чыстай расійскай,
ідучы сьледам за мной
у кірунку аўтобуса “Рыга – Вільня”.

У Вільні я яго ня бачыў,
але ў аўтобусе “Вільня – Менск”
ён апынуўся на суседнім сядзеньні,
а на літоўска-беларускай мяжы
дастаў мабільнік і размаўляў па ім
да самага Менску.

“Слыш, Мішаня ўляцеў на бабкі,
на яго восем штук павесілі,
тачку ў Францыі арыштавалі
і ў Шэнген больш ня пусьцяць”.
І раптам, павярнуўшыся да мяне:
“Табе прывітаньне!”

Яго мабільнік апынуўся ля майго вуха.
Відаць, давядзецца размаўляць пра Мішаню.
Я хацеў узяць, але ён ня даў:
“Ды не, сусед, гэта я не табе.
І прывітаньне таксама не табе.
Ты не зьдзіўляйся, гэта я так жэстыкулюю”.

У мэтро я згубіў яго з вачэй,
але на прыпынку 95-га
ужо нічому не зьдзіўляўся,
вядома ж, ён тут як тут,
заходзіць у аўтобус, сядае насупраць.

“Слыш, вось ты ўсю дарогу
нешта ў свой блакноцік пішаш,
а дзяўчаткі ў гэты час кураць.
Чуеш ты, зусім яшчэ маленькія!
У маёй знаёмай дачка ў 14 гадоў зрабіла аборт,
дык гэта яна яшчэ ня курыць, а каб курыла...”

І зусім на разьвітаньне, выходзячы:
“Слыш, пісьменьнік,
ты толькі не пішы пра гэта верш,
а то выйдзе доўга і нудна.
Лепш апавяданьне накатай!”

# Донжуанскі сьпіс Пушкіна

Едучы па Вэнтспілсе роварам,
мінаю мясцовую бібліятэку.
Ля помніка чырвонаму латыскаму стралку
абганяю дзьвюх маладых жанчын.
Размаўляюць па-расійску.
З латыскім акцэнтам.

І адна другой эмацыйна гэтак кажа:
– “Не, ну я разумею, марак,
загранка там, бабкі і ўсё такое,
але ты мне скажы,
што ты будзеш рабіць адна,
з кім ты будзеш увесь гэты час кахацца?

ХТО ЦЯБЕ БУДЗЕ ТРАХАЦЬ –
ПУШКІН?!”

Чырвоны латыскі стралок
пачырванеў яшчэ болей.

## Зьнесеныя ветрам: кіно з купюрамі

– Папяровая талерка
з рэшткамі шашлыку;

– пластыкавы кубачак
зь лікёрам “Бэнэдыктын”;

– мокры пакецік гарбаты
зь зялёным цэтлікам;

– шмат сурвэтак
белага й чырвонага колеру
(прывітаньне, землякі);

– папяросная папера
з крошкамі тытуню
і ня толькі яго;

– насоўка
сярэдняй ступені чысьціні...

Яшчэ сэкунду таму –
натурморт,
ператвораны ў рухомую карцінку.

Вышэй за ўсіх –
дзьве банкноты па дзесяць латаў
(трохі больш за 30 эўра) –

кошт
гэтай малабюджэтнай экранізацыі.

* * *

Сьвет лавіў мяне,
але не спаймаў:
толькі ён грукаецца ў чат –
я выходжу з пошты.

## К. у горадзе К.

...А яшчэ мы ляцелі 200 па трасе
і бачылі ўсход
над Балтыкам.

*Барбара Радзівіл*

Яна шукала там інтэрнэт. Знаходзіла толькі сэкс-шопы.
На ўсе прапановы выпіць адказвала: “Ішшо бы!”
Сьніла сябе страказой без бурштыну, чайкай без плаўнікоў.
Ад яе скразьнякоў выбівала вокны прыгарадных цягнікоў.

Закопвала ў пляжны пясок чыгуначныя прасьціны,
адкопвала іншаземцаў у сямейных трусах.
На вечную маладосьць сабе зьбірала гадзіны,
спэкулюючы на розьніцы ў часавых паясах.

Труцілася, у глінтвэйн сабе апускаючы льдзінку.
Спавядалася поўні. Усе мы патроху брэшам.
А яшчэ яна загарала на сонечным гадзіньніку,
спыняючы час над усім балтыйскім узьбярэжжам.

## Пленэр

### 1. Палянга

Беларускія перакладчыкі
працуюць зранку,
старанна падбіраючы,
падбіраючы словы,
якія раскідвалі ўночы
п’яныя грузінскія паэты.

### 2. Батумі

Едучы па горнай дарозе,
пішаш алоўкам на хаду.
Машыну трасе – і беларускія літары
ператвараюцца ў грузінскія,
зусім як на вежы ў Батумі,
якая гарыць уначы ўсімі літарамі
грузінскага альфабэту.

Увечары твой нататнік
пачынае сьвяціцца.

# Катапульта

“Думаючы, што свабодны, ты нагадваеш кінуты камень, які думае, што ён ляціць”, – паўтараю я сьледам за Барухам Сьпінозам. І шпурляю ў мора каменьчыкі. Левай рукой, бо правая ў мяне занятая пачатай пляшкай яблычнага сідру.

“Дзіўны чалавек: жыў у Амстэрдаме, а не разумеў такіх простых рэчаў”, – думаю, адсёрбваючы з пляшкі, покуль каменьчык адскоквае ад вады.

Побач са мною на беразе – вялікая драўляная сярэднявечная катапульта. Задумваюся пра свабоду ейных каменьчыкаў – і здаюся сабе маленькім-маленькім. І адразу згадваю пра дзіцячы садок, чароўную катапульту майго жыцьця.

Згадваю, як мяне выпускалі зь цёмнай кладоўкі, куды я трапіў у пакараньне, бо ўсю ціхую гадзіну, замест таго каб спаць, пяшчотна гладзіў руку маёй чатырохгадовай суседкі па раскладушцы, Лены Б.

Лена ня мела нічога супраць. Супраць быў Ігар К., таемна закаханы ў Лену, які заўважыў і адразу наябеднічаў выхавацельцы Зінаідзе Іваньне.

Зінаіда Іванна таксама ня мела нічога супраць, але й над ёй было начальства, таму выпусьціла мяне яна толькі перад прагулянкай, бо прагулянка ў садку – гэта сьвятое.

Радасна і ўрачыста, трымаючыся за рукі, як першыя людзі на зямлі, крочым мы зь Ленай Б. да пясочніцы. І тут нешта на касьмічнай хуткасьці ўразаецца мне ў галаву.

“Ой, бедненькі!” – вішчыць Лена і задаволена кідаецца абмацваць мой гузак. А выхавацелька ўжо ляціць да нас з крыкам: “Хто гэта зрабіў?!”

“Зінаіда Іванна, гэта ўсё Ігар. Гэта Ігар кінуў у Андрушу каменем. А я ўсё бачыла!”

Гэта Таня Ж., таемна закаханая ў Ігара К., таемна закаханага ў Лену Б., ябеднічае на свайго чэрствага абраньніка.

Ігар К. атрымлівае ад выхавацелькі па поўнай праграме, а я краем вока бачу, як за найбліжэйшай клюмбай выхавацелька іншай групы цягне за вуха іншага малалетняга бамбізу, прыгаворваючы: “Ну нашто, нашто ты кінуў у таго хлопчыка яблыкам?” Усё бачу, але ўжо нічога не магу зрабіць.

І камень ляціць з хворай галавы на здаровую і – паводле закону прыцягненьня – ператвараецца ў яблык.

І адскоквае ёй проста ў рукі, і яна, вядома ж, спакушаецца, а потым надкусвае, глытае кавалак – і засынае.

Потым ты яе пацалуеш (калі захочаш). І ціхая гадзіна скончыцца.

Яна прачнецца.

І абодвух выганяць зь дзіцячага саду.

І пойдзе адлік завірух, заварух
і доўгіх сямейных саг.
“Як камень”, – кажа Ісаку Барух.
“Як яблык”, – кажа Ісак.

## Ліхтарык: байка пра электрычнасьць

Усе пешаходы на важным мітынгу – патрабуюць роўных правоў з раварыстамі.

Усе раварысты на важным вэляпрабегу – патрабуюць роўных правоў зь пешаходамі.

А ён чакае на сьвятлафоры – адна нага на зямлі, другая на пэдалі – і ня ведае, чаго патрабаваць.

"Які ты раварыст? – кажуць раварысты. – Дзе твой шалом?"

"Які ты пешаход? – кажуць пешаходы. – Дзе твой флікер?"

"Скажы, ну як ты можаш быць абыякавым? Калі яны займаюць усе вэлядарожкі, асабліва гэтыя бабулькі з сабачкамі ў флікерах! Ім гудзі, не гудзі – ідуць па самай сярэдзіне, ды яшчэ ў навушніках, нічога ня чуюць. Што яны там слухаюць? Хэві-мэтал?"

"Прызнайся, ну як табе не абыходзіць? Калі яны панатыркалі паўсюль сваіх вэлядарожак, асабліва гэтыя бабулькі на спартовых роварах, начапілі шаломы і гудуць у кляксоны – ні сабачку выгуляць, ні хэві-мэтал паслухаць!"

"А таму, на знак пратэсту, мы сёньня круцім пэдалі ў два разы хутчэй! Гэта – наша этычная пазыцыя".

"А таму, на знак сваёй нязгоды, мы сёньня слухаем музыку ў два разы гучней! Гэта – наш маральны выбар".

“А ты думай, куды круціш пэдалі: дзень кароткі, вяртацца далёка, а там – жудасныя пешаходы ў цемры!”

“А ты вырашай, куды тупаеш: хутка сьцямнее, дарога няблізкая, а там – жахлівыя раварысты ў змроку!”

Ён думаў да самай цемры – і ўрэшце выбраў ровар. Амаль выпадкова. Можа, таму, што ў ровары сьпераду ёсьць ліхтарык. (У пешаходаў такога няма.) І далей усё адбываецца само сабой. Нічога ня трэба самому ўмыкаць.

Проста круціш пэдалі, а як толькі робіцца цямней – агеньчык сам запальваецца. І яго яркасьць не залежыць ад таго, як хутка круціш пэдалі, а толькі ад цемры навокал. Ты круціш – і ён сьвеціць.

А калі ня сьвеціць, значыць ня трэба, значыць і так сьветла.

* * *

Ехаць да мора – з узьлётнай цукеркай – яшчэ трохгадовым
майстрам тэракту ў паветры, чый крык авалодаў салёнам;
да шакаляднай ангіны на палачцы вечна гатовым,
зьбеглым ад маці ў ваду і спалоханым смакам салёным.

Ехаць да мора на лаўцы ў набітай бітма электрычцы,
хоць пэдыятар з дыплёмам казаў: “Береги, мальчик, кожу!”
Ды не паслухаць парады – і сонечнай ваннай накрыцца.
Скура аблезла, і лупіш кавалкамі гэту раскошу.

Ехаць да мора ў пляцкартным вагоне, на верхняй паліцы.
Зранку прачнесься, абуджаны водарам смачнага сала.
Вусны баляць і язык, але знаеш: няма чаго зьліцца –
сам спакушаў, а сяброўка паверыла і пакусала.

Ехаць да мора насустрач заходу ў апошнім трамваі:
сонца сядае, і рэйкі – у золаце гданьскае пробы.
Столькі прыдуркаў залезла ў ваду, але мора трывае
дзікія танцы буйкоў зь нецьвярозымі дзецьмі Эўропы.

Ехаць да мора – па моле, на ровары, скрадзеным двойчы.
Вецер сьлязу вышыбае з вачэй, і ты плачаш прылюдна.
Зьлева і справа – Балтыйскае мора... Заплюшчыўшы вочы,
ездзеш, але не зрываесься з молу, бо мора паўсюдна.

Конар О'Браен

# Памяць

Горад вабіць за кулісы,
ноч сырэнамі пяе.
Мазахісты, як Улісы,
прывязаны да яе.
Памяць вые ў адзіноце
над пытаньнем: "Што рабіць?"
Гэтай ноччу кожны знойдзе,
што згубіць.

Cm
D#
Cm
D#-G#
D#-Fm
D#-Fm
Cm
G#-Cm

Раздаеш усім па частках,
што раней было табой,
што хавалася па чатах
і сыходзіла ў запой,
што вярталася, як пошта
з электронных міражоў,
абяцаючы мне ўсё, што
не знайшоў.

Ты пры мне здымала мроі,
як адзежу, выбачай.
Нас было ў пасьцелі трое:
мы з табой і мой адчай.
Я агонь разьвёў таропка
і спаліў, што ў ім знайшоў.
Ты сказала мне: "Падробка.
Маскі-шоў".

Памяць цела…
Попелу мяцеж…
Захацела?
Потым падмяцеш.

Ветразь памяці парвала,
праз барты цячэ віно.
Мы трымаемся трывала:
ты – за бераг, я – за дно.
Рукі ранячы аб шкельцы,
клею памяць у журбе,
як пасудзіну тапельца,
як цябе.

Я раздам сябе па частках,
як табе ўсяго даю.
Задыхнуся ў новых пастках
і забуду пра тваю.
Я цяпер Сымон і Зося,
Вераніка і Максім.
Я – усё, што не ўдалося
нам усім.

Серж Гензбур

## Тысяча дробязяў

Цяжэй за ўсё
мы забываем дробязі,
бо тысяча драбніцаў –
вельмі шмат.
Нам памяць піша
дробязі, як пропісі,
сама сабе настаўніца
і кат.

Ня думаю пра вас,
лічу драбніцаю,
глытае дробязь
сэрца-аўтамат.
Між намі засталося
таямніцаю
драбніцаў гэтак мала,
што зашмат.

Забыць пра непатрэбнае
і дробнае:
між намі адбылося
так няшмат.
Па дробязях
падробім непадробнае...
А вочы –
як апошні кампрамат.

Am6 - E7
Gm6 - D
Dm7 - Am
B7 - E7

Am6 – E7
Gm6 – D
F6 – Am/E
B7 - E7 - Am6

Dm6 – G
Cmaj7
Dm7 – G
Cmaj7 - B7 - E

Сьмяемся напаказ
зь любое дробязі,
пусьціць сьлязу –
ну, гэта ўжо наўрад...
Шукаю ў вашым сэрцы
сонца праблёскі,
а ў сэрцы драбяза,
і той няшмат.

Хто бачыў вас,
той вечна будзе дробязным,
бо кожная драбніца –
шах і мат...
Хто вас пакінуў,
не сябруе з розумам,
а хто застаўся,
той зусім вар’ят.

F#m – C#m – Bm – C#7
F#m – C#m – Bm – C#7
D – A – C#7

Стынг

## Краплёная масьць

Тасуе карты й раздае так шчыра,
што не раскусіш да канца:
ня дзеля грошай пачынае з чырваў,
не для славы гульца.

Тасуе, нібы разгадаць павінны
наканаванасьці закон,
бы тыя *звонкі, жалуды і віны*
нас ставяць на кон.

Я знаю, што віны змываюць крывёю,
ніхто жалудам стаць дубамі ня дасьць,
і толькі ты ня ведаеш адбою –
сэрцам краплёная масьць.

Ён веры дасьць віновай даме,
ён жалудамі куш сарве,
ягоны туз гульню рабіў гадамі,
схаваны ў рукаве.

Ты кажаш мне: каханьне – казкі,
гулец, вяртайся да стала.
А я з табой не адзяваю маскі –
адна да твару прырасла.

Чым болей слоў, тым меней сэнсу
паміж азарту й міражоў.
Тры чвэрці карт – ні розуму, ні сэрцу:
масьць пайшла, а ты сышоў.

Я знаю, што віны змываюць крывёю,
ніхто жалудам стаць дубамі ня дасьць,
і толькі ты ня ведаеш адбою –
сэрцам краплёная масьць.

# Трымацца побач

Яны зьявіліся адзін за адным
на мокрай ад дажджу вэлядарожцы.

Першы быў маленькі-маленькі,
зусім яшчэ падлетак,
але як мог круціў пэдалі,
везучы на багажніку старэйшую,
удвая большую за яго сяброўку.

Другі, ня маючы свайго,
бег каля ровара дзяўчыны,
амаль задыхаючыся,
з усіх сіл стараючыся трымацца побач.

Трэці сам ехаў на ровары
побач з жанчынай, якая ішла пешкі,
прычым павольна-павольна,
ён жа, ледзь ня падаючы,
стараўся не абганяць,
адной рукой трымаючы раўнавагу,
другой – парасон над ёй.

Я ледзь ня трапіў пад наступны ровар,
задумаўшыся, хто зь іх
кахае мацней.

## Цягнік Чыкага – Токіё

Сёньня я дабіраўся
з Чыкага ў Токіё на цягніку,
бо калі самалёт ляціць 13 гадзінаў,
гэта ўжо цягнік.

Гэта як стартаваць у Берасьці
і цэлую ноч ехаць у Гомель,
адсочваючы па маніторы
рух свайго цягніка,
што мусіць абагнуць Ціхі акіян
праз Канаду, Аляску,
Камчатку й Сахалін.

У агульным вагоне
гучыць клясычная музыка.
Па калідоры праходзяць
бездакорна ветлівыя праваднікі,
разносячы рысавыя крэкеры.

Бліжэй да адзінаццатай,
ужо за канадзкай мяжой,
пасажырам прапаноўваюць найлепшае ў Фаніпалі
сьлівовае віно зь лёдам –
і я адчуваю, як у цемры, за ілюмінатарамі вагона,
расьцьвітаюць сьлівы, вішні й сакуры.

Апоўначы
у Петрапаўлаўску-Камчацкім
у цягнік заходзяць цёртыя жыцьцём мужчыны,
прапануючы памяняць украінскія грыўны
на японскія ены.

А пад раніцу ў Сапара
вагон запаўняюць мясцовыя бабулькі,
з гучным крыкам просячы купіць
яшчэ цёплае сакэ,
сьвежазгатаваныя хатнія сушы
і самаробныя нэцкэ
у выглядзе плюшавых мядзьведзікаў,
якімі ім тут выдаюць зарплату.

Цягнік набліжаецца да станцыі прызначэньня.
Машыніст зь японскім прозьвішчам,
што адзін у адзін супадае з тваім, любая,
апошні раз зьвяртаецца да пасажыраў
на прыўкраснай беларускай мове
зь ледзь прыкметным паўночнакарэйскім акцэнтам.

А я чарговы раз думаю, як гэта сумна –
большую частку дарогі
зноў ехаць безь цябе,
бо ты сышла яшчэ ў Аранчыцах,
а я паехаў далей.

## Старая мэтодыка

Слухаю пажылую японку,
што кажа пра новую мэтодыку
запісваць іхныя сказы,
а потым пракручваць і вучыць,
пачынаючы з апошняга складу.

Згадваю маленькую беларуску,
што трыццаць год таму
так і ня скончыла сказу:
“Ведаеш,
я
цябе...”

* * *

Па дарозе на спатканьне
купляю табе букет
у аўтамаце для продажу кветак.

А побач бабулька на скразьняку
прадае ў падземным пераходзе
прэзэрватывы.

## Верш для Дэна Браўна

Прысьнілася, што я вынайшаў
першы ў сьвеце дэльтаплян.

І нават своечасова запатэнтаваў.
І нават падпісаў кантракт на масавую вытворчасьць.
І нават пералічылі грошы на рахунак.
І нават пасьпеў засунуць картку ў банкамат...

Прачнуўся ў жаху, так і не згадаўшы
пін-код Да Вінчы.

## Вершык для Ігара Коцюха

Яны насыпаюць нам лёд
у пісуары,

каб мы яшчэ доўга
не маглі нават падумаць
пра віскі.

# Высокія тэхналёгіі

Яблыкі ў Паўднёвай Карэі
нашмат большыя й саладзейшыя,
бо растуць адразу ў спэцыяльных упакоўках.

“Плады высокіх тэхналёгіяў”, –
жартуе адзін падарожнік.

“Садавіна Samsung”, –
працягвае другі.

“Яблыкі Apple”, –
дадае трэці.

Кіроўцу-карэйцу падабаецца,
і ён пляскае проста на хаду,
не здымаючы са стырна
адной далоні.

## Інь і Ян, або вадзяністая бульба

Хто можа прыйсьці на сустрэчу
зь беларускім літаратарам
на аддзяленьне русістыкі ўнівэрсытэту
ў няблізкіх ваколіцах Сэулу?

Яна мела такія вейкі,
што веер быў непатрэбны.

Ейны голас зьвінеў,
як карэйскія званочкі,
зьбіраючы ўсіх навакольных турыстаў,
што слухалі разам са мной.

Яна папрасіла зваць яе Інай,
хоць так напраўду ейнае ймя Ін Янь.
А можа, нават Інь Ян?

Яе расійская мова
была таямнічая, як усходнія герогліфы,
і магла значыць усё што заўгодна.

"У вас ёсьць *відзіная картошка*?"

Вадзяністая?
Я на адным дыханьні
прачытаў ёй лекцыю пра бульбу
як крыніцу жыцьцёвай энэргіі
і сэксуальнасьці беларускіх мужчынаў.

Але яна відавочна хацела чагосьці іншага:
“У вас ёсьць *відзіная картошка*?”

Я расказаў ёй рамантычную гісторыю
пра студэнта й студэнтку, што паехалі на бульбу
і аднойчы так прамоклі пад дажджом,
што дагэтуль жывуць разам.

Кроплі дажджу
стукалі па ўнівэрсытэцкім ганку,
не кранаючы ейных веек,
а яна, ужо ледзь ня плачучы,
паўтарала: “У вас ёсьць *відзіная картошка*?”

І тут да мяне дайшло.
Дай Бог здароўя кішэні,
у якой зьнікла мая апошняя візытоўка:
цяпер я маю законную нагоду
уласнаручна накрэмзаць ёй усё, што захачу.

“Я буду пісаць вам, – паабяцала Інь Ян. –
А калі вы раптам забудзеце, хто я,
пароль: вадзяністая бульба”.

Я не забуду.

*Токіё, Кёнджу, Сэул, верасень 2010 – верасень 2012*

Леанард Коэн

## Я ўвесь твой

Скажаш быць каханкам – калі ласка
Ўсё, што ў смак табе
Скажаш іншым быць, надзену маску
Як маньяк табе?
Можаш мне разьбіць ушчэнт машыну
Можаш учыніць твайму мужчыну
Марбадой –
Я ўвесь твой

Скажаш мне баксёрам быць
На рынг пайду з грамілаю
Скажаш мне шафёрам быць
Куды паедзем, мілая?
Пагуляць у доктара хацела?
Адкажу за кожны лапік цела
Галавой
Я ўвесь твой

На месяцы
Павесіцца
Як пёс на ланцугу
Я колькі мусіў, столькі хлусіў
Толькі зараз не магу
І як ні лі тут сьлёз
Шчасьлівы лёс
Ня сьвеціць нам дваім

Em–D
Em–D
Bm–G
A–Bm

D-G-A-D
F#m–Bm
F#m–Bm

G-F#m-G
G-F#m-G
G-E-A
Bm

Але я буду выць
На поўню сну
Рваць сэрца
Й грызьці прасьціну
Пусьці ў свой грэшны рай
Прабач і дай, дай
Быць тваім

Хочаш не спазьніца на вясельле
Я спыню цягнік
Хочаш ноч правесьці на панэлі
Безь мяне – я зьнік
Хочаш бацьку для свайго дзіцяці
Хочаш па траве са мной гуляць ці
Пад травой –
Я ўвесь твой

# Я помню ўсё

Я ўстаў ня з той нагі
Кругі перад вачыма
Я выйшаў пакурыць
А ў кухні нейкі гімн
Мне кажуць: я
Няпраўда, немагчыма
Я помню ўсё, я помню ўсё
Я помню, што было… ня помню, з кім

G
Em
G
Em-D
C-Am
B-F-Em
G-C-G
C-Eb
F-G

Я мчуся на аўто
Ў твой чортаў мэгаполіс
Я адрас запісаў
Паперка ў паліто
Ты шэпчаш “так”
Мне не забыць твой голас
Я помню як, я помню як
Як мы з табой, але ня помню што

G-C-G-C-Eb-F-G

B
Em-B
F-Em-D
G-C
G-C
Eb-D

І я прыйду з букетам
Кактусаў найлепшых
Машынка маёй памяці – твая
І я клянуся, мы з табой
Падманем сьледчых
А калі не, скажы ім: гэта я

Я заплаціў жыцьцём
А ты дала мне рэшту
Апошні саўнд-чэк
Пад камэртон зімы
Мінае ўсё
Ды застанецца нешта
Я помню нас, я помню нас
Я помню нас, ды хто такія мы?

## Бугі-стрыт

Цалуеш так
Што зьзяе змрок
Руйнуючы нябыт
Сыходзіш так
Што я на крок
Бліжэй на Бугі-стрыт

Глыток віна і тытуню
І я цьвярозы ўшчэнт
Прыбраў паперы ад агню
Наладзіў інструмэнт
Я ў трафіку жаданы госьць
Я маю час і спрыт
Я той хто ёсьць, пакуль мне ёсьць
Кім быць на Бугі-стрыт

Я помню ўсе твае лісты
Ўсе нашы гарады
Азёры, любая, дзе ты
Выходзіла з вады
А я лавіў цябе ў ручнік
Цалуючы наўзрыд
І быў агонь, а потым зьнік
І я на Бугі-стрыт

F#m-Bm7
C#7
F#m-Bm7
C#7-F#m

F#m
C#m7
D6
Bm-C#7
Dmaj7
F#m
E6
Dmaj7-C#7

Вялікі дзякуй, што прыйшлі
Усе, каго люблю
З кім дзелім радасьці зямлі
Й вяртаемся ў зямлю
Вітаем лета і зіму
І сьвет нам не абрыд
Але ня ведаем, чаму
Прыйшлі на Бугі-стрыт

Цалуем так
Што зьзяе змрок
Руйнуючы нябыт
Сыходзім так
Што кожны крок
Вядзе на Бугі-стрыт

## Таварыства мёртвых празаікаў

Я прыехаў у Амэрыку,
каб вывучыць мову й напісаць кнігу,
але не разьлічыў сілаў.

Першы ж мой сьпіч па-ангельску
выйшаў такі сур'ёзны,
што ўсе пісьменьнікі доўга рагаталі,
а адзін нават назваў мяне mister Gogol.

Я спачатку спалохаўся,
памацаў нос і ўсё такое,
але нос і ўсё такое былі на месцы,
і я супакоіўся.

А дарэмна.

З таго моманту да мяне штоночы
прыходзяць нябожчыкі
і дораць сюжэты раманаў.

Кажуць, каб я занатоўваў, бо зранку ўсё забуду.
Я не занатоўваю, але зранку
ўсе нататкі аказваюцца па-ангельску –
і я нічога не разумею.

Так і пішу вершы.

## Пра розьніцу ў часе,
## або Жаўрукі ня тое, чым яны здаюцца

У шэсьць гадоў перавёў бабулю на іншы бок,
у сем – бацькоўскі гадзіньнік на летні час,
а ў восем табе сказалі, што сонца – бог,
які пераводзіць стрэлкі. Прычым на нас.

Вось ты ляціш на захад, абганяючы гук,
содні ня сьпіш у дарозе, ледзьве жывы,
а назаўтра прачнесься, як апошні жаўрук,
хоць засынаў пазьней ад любой савы.

Хто ў жаўруку чубатым зранку пазнае саву?
І навіны савіныя піша рука жаўрука.
А пра Каперніка з Кеплерам лепш не дуры галаву,
проста час робіць "сонейка" й падае з турніка.

Нехта блыху падкоўвае правай рукой, другі
вучыцца падымацца з той, што трэба, нагі.
І жаўрукамі зрываем голас на сонцы,
і паміраем совамі ад бяссоньніцы.

Толькі тады разумеюць мудрыя совы:
кожны, нават часовы, падзел – часовы.
А покуль совы здаюцца ня тым, чым яны здаюцца, –
і жаўрукі не здаюцца!

## Макдональдз

А яшчэ раскажу вам, што мне расказаў адзін пажылы літаратар:
“Слухай, Андрэйка, старога профі, покуль яшчэ аматар.

Потым іншым таксама раскажаш на вашых дурацкіх варштатах.
Усё было так: я сядзеў на стыпэндыі ў Злучаных Штатах.

Я ў макдональдз на ровары ехаў. Яна перабегла мне вэлядарожку,
сказаўшы, што на траве нашмат цікавей, чым у ложку.

Яна была чорнай,
спартыўнай,
халоднай,
як дыетычная кола зь лёдам.
А я, бы малочны карктэйль, быў белым і тлустым уродам.

Яна страляла вачыма цыгары й падпальвала іх вачыма.
Што ёй ува мне спадабалася, уявіць немагчыма.

Яна мне сказала, што замужам, пачаставала вішняй,
спыталася: “Трэцім будзеш?” Я адказаў: “Трэці лішні”.

Яна шпурляла вішнёвымі костачкамі ў ваду,
трапляючы ў раварыстаў,
што адбіваліся (ў рэчцы)
ад іх на хаду.

Раварысты круцілі пэдалі і пальцам ля скроні,
а яна сядзела ў мяне на каленях, быццам на троне.

Я параўнаў яе з рымскай гетэрай, зь японскай гейшай,
а яна мне сказала: “Хто шмат балбоча, прапусьціць найцікавейшае!”

А яшчэ – што кветка па тое, каб сарваць, бо потым завяне.
А яшчэ – што пайшла на славістыку, бо яе кахаюць славяне.

Аднаго сустрэла ў Бэрліне, другога – на высьпе, у Вісьбі.
Трэцім будзеш?.. Зоркі над намі гулялі да раніцы ў фрызьбі.

Я казаў ёй, што сэнсу нямашака, а яна мне казала, што ёсьцека, –
і глытала мяне, як вішню, не пакідаючы хвосьціка.

Я скакаў з ільдзінкі на льдзінку ў яе дыетычнай коле,
хапаючыся за саломінку, што не ратуе ніколі”.

## Labor day

Горад фактычна спыніўся. Офісы не працуюць.
Банкі не працуюць. Абменьнікі не працуюць.
Кнігарні не працуюць. Музычныя крамы не працуюць.
Аптэкі не працуюць. Пра больніцы нават баюся думаць.

Зялёнае сьвятло на сьвятлафорах амаль не працуе.
Глушылкі на матацыклах праз адну не працуюць.
Паліцыя толькі робіць выгляд, што працуе,
бо інакш нас ужо тройчы спынілі б.

Дарожныя службы не працуюць. Пажарнікі не працуюць.
Нават паўдзённае сонца нехта забыў адключыць,
і мазгі на сьпякоце абсалютна не працуюць
(мае асабліва, досыць зірнуць на гэты верш).

Ратавальнікі на возеры Мічыган не працуюць,
бо й патэнцыйныя тапельцы не працуюць.
Пра сеціва ў нашай кавярні
на верхатуры чыкагскага хмарачоса
лепей і не казаць.

Нічога не працуе. Амэрыка сьвяткуе Дзень працы.

І толькі павучок за нашым акном на ўзроўні 96 паверху,
гайдаючыся на вятры, усё пляце сваё сеціва.



Уся Амэрыка радасна ўсьміхаецца.
Увечары й нават зранку.
Прачынаецца, чысьціць зубы
і адразу пачынае ўсьміхацца.

Нават шэрыя аёўскія вавёркі,
перад тым як кінуцца табе пад ногі,
ветліва ўсьміхаюцца.

І ты тут радасна ўсім усьміхаесься,
і ўсе радасна ўсьміхаюцца табе ў адказ.

Толькі адзін сівенькі дзядок не ўсьміхаецца.
Проста сумна глядзіць табе ў вочы, быццам гаворачы:
“Ты малайцом, ты ўсё робіш правільна,
але я так, выбачай, не магу”.
Устае з бардзюра і няцьвёрдай хадой ідзе ў бар.

Сёньня зранку ты добра яго зразумеў.
Другая пляшка віскі са штату Кентукі
выявілася большай, нашмат большай, чым табе здавалася,
і цяпер нагадвае пра ўчора –
кожны рух галавы балюча аддаецца ў галаве,
і кожны рух мышцамі твару
таксама аддаецца.

А паўзь цябе з радаснымі ўсьмешкамі
прабягаюць студэнты й студэнткі –
а ты толькі сумна глядзіш ім у вочы:
“Малайцы, вы ўсё робіце правільна,
толькі я, даруйце, сёньня так не магу”.
Устаеш з бардзюра і няўпэўнена рухаесься да…

Праз паўтара месяца ты вернесься на радзіму –
і будзеш радасна ўсім усьміхацца.
І ніводзін сабака не ўсьміхнецца табе ў адказ.

Стоп, а можа, яны ўсе ўчора таксама таго?
Хочуць, але ня могуць
паварушыць мышцамі твару?

Дарагія суайчыньнікі,
калі вы ўжо ня можаце ня піць,
то прынамсі дакладна разьлічвайце
аб’ёмы сваіх пляшак
або хаця б пахмяляйцеся зранку
проста ў ложку,
а потым уставайце з правільнай нагі,
чысьціце зубы,
цалуйце сваіх каханых,
радасна выходзьце з дому
і – усьміхайцеся, усьміхайцеся, усьміхайцеся!

## The Poetry Center

Вечарына паэзіі ў Цэнтры паэзіі
выйшла цёплая і ўтульная.
Аўдыторыя была запоўненая слухачамі,
а паліцы – паэтычнымі кніжкамі.

Усе пяцёра паэтаў былі вельмі таленавітыя
і шырока вядомыя ў сваіх краінах.
Усё было вельмі карэктна.
Лэдзі чытала першай,
а чацьвёра джэнтэльмэнаў – другімі.

Лэдзі сказала, што яе вершы
не перакладзеныя на ангельскую,
і прачытала кавалак з рамана.

Першы джэнтэльмэн сказаў, што ягоныя вершы
таксама не перакладзеныя на ангельскую,
і прачытаў апавяданьне.

Другі джэнтэльмэн сказаў, што ягоныя вершы
перакладзеныя, але
ён усё адно пачытае прозу,
бо так яго лепей зразумеюць.

Трэці джэнтэльмэн прызнаўся,
што ўвогуле ня піша паэзіі
і будзе адзіным тут празаікам,
чым вельмі ўсіх насьмяшыў.

Толькі чацьверты джэнтэльмэн
прачытаў адзін верш,
у арыгінале і па-ангельску,
але кітайскі акцэнт быў такі,
што мала хто адрозьніў першае і другое.

Мадэратар вельмі цешыўся
і выказаў надзею, што паэзія
і надалей будзе жыць і разьвівацца
ў іхных краінах, на іхных мовах.

Я таксама парадаваўся, і было ад чаго:
за ўсю вечарыну паэзіі ў Цэнтры паэзіі
ніхто не пачуў ніводнага кепскага верша.

## Фэйс-кантроль. Вершык на сурвэтцы

Калі тры цемнаскурыя грацыі
з тонкімі музычнымі пальцамі,
тры арфа-амэрыканкі,
захінаючыся ад ціхаакіянскага холаду
адным пледам на траіх
і адным на траіх касяком,
перабягаюць з бардэлю ў літаратурны бар,
дзе на ўваходзе,
у адрозьненьне ад бардэлю,
у іх патрабуюць пасьведчаньне асобы з фота, —

яны паказваюць ахоўніку такія фота,
што ягоны чорны фэйс выразна чырванее,
а ў паветры яшчэ доўга чуваць
салодкі водар арфы
і яшчэ саладзейшыя гукі
марыхуаны.

## Сьвяты Францыск Каліфарнійскі

Ходзіць па Чайнатаўне ў цёплай талстоўцы,
вязанай шапачцы і пальчатках бяз пальцаў.

Часам падорыць графітчыку новы балёнчык з фарбай.
Часам падкіне пяць баксаў вулічнаму актору.

Ведае мову зьвяроў і замежных турыстаў.
Разумее сабак і сабакаводаў,
просіць другіх заўжды прыбіраць пасьля першых.

Водзіць на пляж і знаёміць самотных лесьбіек.
Запрашае бяздомных на вечарыны,
дзе пасьля вершаў звычайна частуюць піцай.

Калі пачынаецца дождж,
раздае мінакам шыкоўныя парасоны,
асьцярожна зьбірае з асфальту смаўжоў
і дажджавых чарвякоў,
якіх кідае рыбам,
а рыбаў – птушкам.
Звычайна дзьвюх рыбак хапае, каб накарміць
усіх партовых бакланаў.

Зранку працуе вагонаважатым
на канатнай чыгунцы
і бясплатна пускае ўсіх гарадзкіх катоў,
што на падножках віснуць і задаволена
паціраюць вусы дваццаціпяці-
цэнтавымі манэткамі.

Удзень варожыць у знакамітай кнігарні,
адкрываючы найбліжэйшы да наведніка томік
на выпадковай старонцы:
"Усё, што вам трэба, – гэта каханьне!" –
кажа худому падлетку ў трэснутых акулярах.
І ягонаму сябру, які трымае яго за руку:
"А калі нельга кахаць з аднолькавай сілай,
будзь тым, хто кахае больш!"

Увечары шпацыруе ля Ціхага акіяну,
размаўляючы з рыбакамі й гаспадарамі яхтаў.
Мерзьне і, каб сагрэцца, падымаецца ўгору,
цяжка дыхае, выпускаючы з рота густыя
клубы цёплае пары – і Залаты
мост патанае ў тумане.

## Амэрыканскі футбол

*Дзіму Д., бэйсбалісту,*
*Вальжыне М., амэрыканцы,*
*Марыне Ш., жонцы*

“Калі ты ўжо ў сваёй Амэрыцы
напішаш верш пра бэйсбол?” –
пытаюцца сябры.

Вядома ж, можна і пра бэйсбол,
але як тады без дурацкіх жартаў
пра памеры бэйсбольнай біты?
А мая амэрыканская перакладчыца –
дама культурная,
якую яшчэ на занятках па вершаскладаньні
навучылі, што памер ня мае значэньня,
бо галоўнае – рытм.

Лепш напішу пра амэрыканскі футбол,
бо ня дзеля бэйсбола ж
я ўчора ледзь не памёр, падавіўшыся ежай,
калі ўся кавярня ў мяне за сьпінай,
гледзячы ў тэлевізар,
хорам зараўла: “ТАЧДАЎН!”

Так, пра амэрыканскі футбол,
бо тыдзень таму правёў усю нядзелю
у таварыстве дзьвюх тэхаскіх параў,
што разам глядзелі яго да позьняе ночы
на трох лэптопах, прычым кожны зь іх
паказваў свой матч.

(Адна пара глядзела розныя матчы,
а другая – адзін на дваіх.)

Я ціхенька шапнуў мужу,
таму, у якога быў адзін на дваіх,
што іх варыянт мне падабаецца больш.
"Гэта таму, што жонка нічога ня цяміць у гульні", –
пажартаваў муж. А жонка дадала:
"Гэта што, заўтра ён будзе са мной
глядзець перадачу пра коцікаў!
Дарэчы, Андрэй, ты б мог
глядзець разам з жонкай пра коцікаў?"

"Так, хоць пра козьлікаў.
Вось толькі чытаць фэнтэзі разам зь ёй
так пакуль і не навучыўся".

"Ну і козьлік!" – падвёў выснову муж,
унівэрсытэцкі выкладчык.
Я радасна пагадзіўся.

Так, бо я сапраўды дурань,
бо гэта так здорава – чытаць з жонкай
пра коцікаў ці нават пра козьлікаў,
а яшчэ лепей – адкласьці кніжку ўбок
і заняцца чымсьці іншым
(я не пра амэрыканскі футбол).

Хоць дзеля ўводу ў зман суседзяў
за тонкай сьценкай шматкватэрнага дома
можна ўмыкнуць на ўсю гучнасьць звычайны футбол,

А ПОТЫМ ДАЦЬ ВОЛЮ РУКАМ І, ВЯДОМА Ж, НАГАМ,
ПРАЙСЬЦІ ПРАЗ УСЁ ПОЛЕ І ПАД ГУЧНЫЯ КРЫКІ СТАДЫЁНУ
ПАСТАВІЦЬ ЭФЭКТНУЮ КРОПКУ Ў АТАЦЫ!

І КАЛІ ПАШАНЦУЕ І ТЫ НІ РАЗУ НЯ СХІБІШ,
ТВАЯ ЖОНКА З ІРОНІЯЙ ВЫМАВІЦЬ: “ГОЛ!”,
ПА-АМЭРЫКАНСКУ –
“ТАЧДАЎН!”

## Дзяцінства ў натуральную велічыню

Гадоў у восем-дзевяць
я вельмі зайздросьціў свайму сябруку,
што меў фантастычныя цацкі,
прывезеныя з замежжа:

лякаматывы з вагонамі,
аўтобусы жоўтага колеру,
чырвоныя грузавікі,
легкавушкі, пажарныя
машынкі, салатавыя таксоўкі;

плястмасавыя індэйцы,
якіх было можна абменьваць на каўбойцаў
(хто скажа “каўбояў” – калгасьнік);

плястмасавыя каўбойцы,
якіх можна было, як закладнікаў,
абменьваць на індэйцаў...

Зайздросьціў так, што бацькі
на апошнія грошы
панакуплялі мне рознага шчасьця –
і я супакоіўся.

Але ненадоўга.
Мінула трыццаць гадоў –
і вось я ў Амэрыцы, дзе ўвесь час
маю дзіўнае дэжа вю.

Знаёмы колер таксовак,
дызайн пажарных машынак,
грузавікоў і аўтобусаў,
толькі ўсё
чамусьці вялікае і чамусьці
сапраўднае.

А я думаў, такога ў рэальнасьці не бывае,
бо іх проста нехта панавыдумляў,
як прыдумалі Тома Соера,
дзядзю Тома,
Тома і Джэры.

Таму я ўвесь час нэрвуюся –
што адбылося?
Ці я зрабіўся маленькім,
пакаштаваўшы варожае колы
з надпісам “выпі мяне”?

Ці ўсё значна прасьцей:
Амэрыка вельмі вялікая,
і ўсё ў ёй таксама вялікае,
нават маё дзяцінства –
у натуральную велічыню.

Усе мае цацачныя індэйцы
выраслі так, што валодаюць
шыкоўнымі казіно.

Салатавыя таксоўкі
ганяюць у аэрапорт і назад,
адно пасьпявай ім плаціць.

Што ўжо казаць аб чырвоных
пажарных машынках, якія
абудзяць сырэнай, як толькі
запаліш у ложку.

Мой жоўты школьны аўтобус
сыгналіць на скрыжаваньні,
адвозячы дзетак далёка-далёка,
у трыдзясятае царства канікул.

Каўбойцы
гасьцінна мяне запрашаюць
на фэрму ці ранча,
якое зрабілі ці хутка зробяць музэем.

А іх вялікія дзеці,
на пару хвілін адарваўшыся ад айпэдаў,
слухаюць пра беларускага Гулівэра,
які ў дзяцінстве гуляў зь іх бацькамі, –

калі тыя былі маленькімі.

*Аёва-Сіці – Чыкага – Сан-Францыска, восень 2012*

Уладзімір Высоцкі

## Песьня пра абражаны Час

Пацягні за край заслону шчыльную –
Такая цяжкая, старэнькая куліса:
Вось які быў час да нас прыхільны,
Ураўнаважаны – зірні, Аліса!

Ды… радасна гадзінаў не лічылі
Шчасьлівыя,
Дні свае маруднымі лічылі
Імклівыя,
Падганялі Час, гады і хвілі
Крыклівыя,
Забівалі Час, амаль забілі –
Яны, вы, я…

Час ня круціць коламі –
Колы сталі хворымі,
Бо спаліла трэньне горш за полымя.
Час на нас абразіўся, і болей мы
Ўжо ня зьверым часу зь яго коламі.

І дванаццаць не праб’е апоўначы,
Не дачкаесься і поўдня, хоць маліся!
Бо спыніўся Час, сябе ня помнячы, –
Такі абражаны – зірні, Аліса!

Am
Am–Em
Em-F#
H7

Em-Am
H7-Em
G7-D7
F#-H7

І… на гадзіньнік роспачна зірнулі
Шчасьлівыя,
Жаласныя песьні зацягнулі
Журлівыя,
Рты сваё вялізныя замкнулі
Крыклівыя,
Хорам пазяхнулі і паснулі –
Яны, вы, я…

Колы змаж гадзіньніку,
Бо вядома й цынiку,
Трэньне забівае Час у выніку.
І ня будзе шчасьця без гадзіньніка –
Ні табе, ні Часу, ні гадзіньніку!

Аляксей Хвасьценка, Анры Валахонскі

# Арландына

Йшоў я апоўначы цьвярозы,
Не адчуваючы пагрозы...
Бачу, з паненкі льюцца сьлёзы,
Як з ручая.
– Хто цябе скрыўдзіў, залатая?
Хто пра цябе не памятáе?
Віна – чыя?
Ты, Арландына, мой жаданы лёс!
Ідзі хутчэй сюды, ня трэба сьлёз!..”
– “Так, гэта я!

Em-C-H7
H7-Em
Em-D
D-H7
Em-Am
D-C
H7
C
H7
H7-Em

Так, я завуся Арландына,
Бо мяне клічуць Арландына...
Толькі ня клічуць Арландыну,
А хто – віной?!
Ты мяне скрыўдзіў, залатую,
Скрыўдзіў і кінуў, не жартую,
Аёй-аёй!
Але дарую, хоць паганец ты,
І атрымаеш новы шанец ты –
Буду тваёй!”

– “Цяжка ў самоце без падтрымкі –
Хутка ідзі ў мае абдымкі,
Перацалую ўсе радзімкі!..”

І тут – кашмар:
Поўсьцю пакрыўся лоб дзявочы,
Пачырванелі нос і вочы,
Скрывіўся твар,
Ваўчынай пашчай сталі вусны –
І я быў схоплены найгнюснай
З гнюсных пачвар.

– "Ведаеш, я не Арландына,
Так, я зусім не Арландына.
Хопіць, прыйшла твая гадзіна –
Я Люцыфэр!
Позна маліцца, ты ня ў храме!.."
І вырваў сэрца кіпцюрамі
Князь-людажэр,
І згінуў я паміж зубоў крывых.
Было мне добра жыць сярод жывых...
Кепска цяпер!

# Інкогніта

Сярод ісляндцаў столькі паэтаў,
Рэйк'явік такі маленькі,
а дождж такі моцны,
што ўвесь горад зьбегся
на фэстываль.

Увесь прамоклы бамонд –
як на далоні.

Адзінай, каго ты не пазнаў,
была Б'ёрк,
што прыйшла без макіяжу.

## У чаканьні Г.

Як яны пазнаёміліся?
Вельмі проста. Разам чакалі гейзэра.

Адзін папрасіў другога,
каб той яго сфоткаў,
калі гейзэр пачне вывяргацца,
а потым яны зробяць наадварот.

У першага быў яблык на пляншэце
і нейкае таксама расьліннае імя.
Другі меў фатакамэру
зь імем праваслаўнага патрыярха.
Ясна, што славянін.

– *Ты чуеш, нешта булькае.*
*Зараз-зараз.*
*Павінен выбухнуць.*

Адзін навёў камэру,
другі прыняў карцінную позу,
чакаюць.

Мінае трохі часу.
Нічога не адбываецца.

– А ты ўпэўнены, што ён увогуле працуе?
– Так, казалі, кожныя сем хвілін.
– Мы чакаем пятнаццаць.
– Ну, можа, завіс.
– Гэта ў цябе мазгі завіслі. Хадзем у аўтобус.

*– Не, чуеш, нешта булькае.*
*Зараз-зараз.*
*Павінен выбухнуць.*

Рукі мерзнуць. Ногі мерзнуць.
Сьпіна здраньцьвела.
Палец здраньцьвеў на кнопцы.
Акуляры закапала дажджом.
Вочы сьлязяцца на вятры.

– Бачыш, пара ідзе.
– Так, вадзічка, відаць, цёпленькая.
– Як дома ў ваньне… А тут гэты дождж.
– Так, я зараз бы прыняў ванну.
– Слухай, хадзем ужо, нічога ня будзе.

*– Не, чуеш, нешта булькае.*
*Зараз-зараз.*
*Павінен выбухнуць.*

– Слухай, а на колькі мы ўвогуле спыняліся?
– На паўгадзінкі.
– Дык яны даўно скончыліся.
– Што?
– Што чуў. Наш аўтобус пайшоў.
Ці зараз пойдзе.
А я застануся.
У чужой краіне.
З прыдуркам, які нават гейзэр сфоткаць ня можа.
Хутчэй пабеглі!

*– Чакай, чуеш, нешта булькае.*
*Зараз-зараз.*
*Павінен выбухнуць.*

Дождж узмацняецца. Вецер таксама.
Парасон вырывае з рук ветрам.
Пры спробе злавіць парасон
падаюць і разьбіваюцца акуляры.
Пры спробе злавіць акуляры
падае й разьбіваецца камэра.
Пры спробе злавіць камэру таварыша
падае й разьбіваецца пляншэт.
Пры спробе злавіць пляншэт
падае таварыш.
Пры спробе злавіць таварыша...

*І тут гэты... ну гэты... на г...*
*нарэшце выбухае.*

# Грыба-кіт

Глядзець на кітоў – як хадзіць у грыбы.

Трэба ведаць спэцыяльныя кітовыя месцы,
мець добры зрок і выдатную інтуіцыю,
якая падкажа, калі паварочваць назад,
бо нічога няма і ўжо ня будзе.

Але галоўнае –
зыркі чырвоны камбінэзон,
каб кіты бачылі грыбніка здалёк
і плылі яму насустрач з радасным крыкам:
“Глядзі! Я тут! А цяпер тут!
Ды ня там, а тут, дубіна!”

Падгляданьне за кітамі – сур’ёзны спорт.
На тваім катэры нават ёсьць камэнтатар.
Сядзіць зьверху і крычыць у мікрафон,
паказваючы напрамак, у які глядзець,
прычым у гадзінах,
зь першай па шостую – глядзець направа,
зь сёмай па дванаццатую – налева:

– тры гадзіны, за дзьвесьце мэтраў!
– дзьве гадзіны, за сто мэтраў!
– адна гадзіна, за пяцьдзясят мэтраў!
– дванаццаць, эх, прайшоў пад самым носам,
а вы ўсе зноў аблажаліся!

Нагадвае падарожжа ў часе,
прычым супраць стрэлкі гадзіньніка,
да самага дзяцінства, калі ты хадзіў у грыбы
без спэцыяльнага камбінэзона.

Зьлева па борце вялікі масьляк
за дзьвесце, сто, пяцьдзясят мэтраў,
ай, халера, зьнік разам з грыбніцай,
перш чым ты зрэзаў яго
сваёй фатакамэрай, дубіна!

Да таго ж, яшчэ карабель канкурэнтаў,
а ў іх і аб'ектывы даўжэйшыя,
і камбінэзоны такія зялёныя,
што грыбы губляюць усякую асьцярожнасьць!

Справа па борце,
разам асядлаўшы хвалю,
касяком ідуць апенькі.

А паабапал абабкі,
а паабапал абабкі,
а паабапал абабкі...

Толькі напрыканцы,
калі ты ўжо амаль страціў надзею,
вялікі сіні грыб на сэкунду
паказаў табе свой капялюш –
і разьвітальна пляснуў ножкай
па хвалях ісляндзкага моху.

Зноў не пашанцавала.
З тваімі здольнасьцямі – толькі ў ягады.
Або глядзець на цюленяў.

Уночы табе прысьніцца
гіганцкі баравік
з мапай Грэнляндыі на капелюшы,
па якой будзе плысьці
чырвоны, як твой камбінэзон, кіт –
і пускаць гейзэры.

Твая фатакамэра абудзіць увесь дом.

## Музэй фалясаў

“Не, гэта не музэй філялёгіі,
а музэй фалялёгіі”, –
цярпліва тлумачыць субтыльнай бабульцы
здаравенны мужык на ўваходзе.
“Якая розьніца?
А вы заходзьце – і самі ўсё ўбачыце”.

Адказу бабулькі не чуваць
праз выбух жаночага сьмеху ў музэі.
Ну, і як тут было не зайсьці?

Як я і думаў,
я быў тут адзіным наведнікам-мужчынам.
І адзіным, хто не сьмяяўся з кожнага экспаната.

“Не, ну ты глядзі, – рагоча адна. –
Гэтая доўгая штука на сьцяне –
фалас кіта-забойцы!”
“Трапна адзначана, сапраўдны забойца”, –
адказвае другая.

Ёсьць, дарэчы, і больш мірныя пэнісы:
кашалётавы, цюленевы й нават маржовы.
(Так, менавіта ён!)

Сіні кіт, гарбаты кіт, белабокі дэльфін...
За пяць хвілінаў я дазнаўся пра іх нашмат больш,
чым учора, паўдня ганяючыся за імі па акіяне.

Коні, быкі, сабакі, нават адзін ангелец
1971-га году нараджэньня –
акт дарэння музэю далучаны,
так што рана ці позна (дай яму Бог здароўя!)
музэй папоўніцца новым экспанатам.

Зь некаторымі хочацца паразмаўляць па душах,
як з чэрапам Ёрыка,
спытацца, што яны бачылі ў сваім жыцьці,
на якія свавольствы й выдумкі былі здатныя,
перш чым апынуцца засьпіртаванымі ў слоіку
аб'ектамі дурацкіх насьмешак...
Трасца, зноў яны рагочуць,
няўжо мне аднаму тут нявесела?

Цяпер прыдалася б пуэнта,
патаснае заканчэньне без ідыёцкіх жартаў,
але ў вершах маёй краіны
шмат вядзецца пра хлеб і пра матчыны рукі,
і пра бацькавы рукі, таксама пра дзедавы рукі,
што мужна трымалі зброю,
дзякуй, мы помнім пра зброю,
толькі пра хер там няма ні хера,
быццам бы нас рабілі пальцамі рук...

Вось жа, пакойцеся зь мірам, фалясы ў фармаліне!
Вашыя гонар і слава – у вашых нашчадках,
юных, прыгожых і жорсткіх, як гэта зямля і мора,
Orcinus orca,
Balaenoptera musculus,
Phocoena phocoena
і Homo erectus, erectus, erectus!

## Блакітная лагуна

И понял я, что я в аду.
*У. Набокаў*

Ніколі ня ведаеш,
хто зараз вынырне з густое пары
па-над гарачай салёнай вадой:

морж,
цюлень,
падводная лодка,
скандынаўскі Вэргілій з балканскім Дантэ,
гішпанскі турыст-пікапэр,
дзядуля ў вязанай шапачцы,
бабуля з плястыкавым кухлем піва;

можа быць, ты сам у сыліконавай масцы на твары –
нанесьці на сухую скуру,
а праз 5–10 хвілінаў змыць;

ці апостал нейкай новай канфэсіі –
хрысьціць гарачай парай і рыбіным тлушчам,
дзеткі растуць здаровыя, моцныя
і ўстойлівыя да любых рэлігійных уплываў.

Станоўчых і адмоўных пэрсанажаў
адрозьніваеш толькі па тым,
як згушчаецца ці зьнікае пах серавадароду.

Твой знаёмы лявак сказаў бы,
што гэта добрая мэтафара буржуйскага грамадзтва:
фэшэнэбэльны басэйн з усімі выгодамі –
і лёгкі пах серы па-над ім.

Так, сьвет заўсёды й паўсюль быў такі:
каму пад душ,
каму на масаж,
каму маску на твар,
каму ў саўну,
каму ў гарачую пару,
каму халоднае піва проста ў басэйне...

А ў самым канцы –
прад'яві, калі ласка, на выйсьці
бранзалет з электронным датчыкам.

Кожны праведнік
атрымлівае ад апостала
шампунь і вялікі ручнік,
зручны халат і фен,
а галоўнае – ключ ад шафы
з сухімі і цёплымі рэчамі,
у якіх сядзе ў камфартабэльны аўтобус
і паедзе туды, дзе найбліжэй да неба,
дзе яму ўключаць паўночнае зьзяньне
зь бясплатным вайфаем,
каб фоткі – адразу ў фэйсбук.

Кожнага грэшніка,
мокрага й голага,
выпхнуць на вецер з дажджом і сьнегам,
бяз грошай і дакумэнтаў,
без айфона й айпэда,
бяз тэрмаса й малітоўніка,
без алоўка й нататніка,
каб хоць неяк занатаваць
усю гэтую трасцу.

## Гейзэр, які заўсёды з табой

Не, гэты верш не пра фалясы.
Гэты верш пра паэтаў.

Я вярнуўся да гейзэраў,
як злачынца на месца злачынства.
А там ужо чакаюць некалькі знаёмых,
бо паэты ж – яны таксама людзі,
таксама любяць фатаграфавацца ля гейзэраў.

І ў кожным гейзэры паэт бачыць калегу.
Уважліва й раўніва прыглядаецца,
прыслухоўваецца,
прынюхваецца,
асьцярожна распытвае пра яго:
ці часта выбухае?
і якой моцы выбухі?
як доўга ўжо не выбухаў?
ці чакаецца новы прыступ актыўнасьці?
і ўвогуле, ці жывы ён яшчэ?

Зайздросны цытуе:
“Калі ў цябе ёсьць фантан, заткні яго!”
Дысцыплінаваны раздражняецца:
мог бы пускаць свае бурбалкі
паводле раскладу, хвіліна ў хвіліну,
каб добрыя людзі ня мучыліся ў чаканьні.

Толькі жабрак,
які пад’ядае разам з коткаю і сабакам
рэшткі ежы зь мясцовага рэстарану,
цешыцца, дапіваючы піва,
недапітае кімсьці зь японцаў,
сабе пад нос прамаўляючы тост:

“За падземную музу,
якая хоць зрэдку казыча яйцы
гэтым старым пердунам!
І яны хоць крыху, хоць кепска,
але яшчэ могуць даць чаду
і не дазволяць астыць ні кухоннай пліце,
ні дурненькім сэрцам турыстаў,
якія на гэта дагэтуль вядуцца,
вядуцца й не пераводзяцца,
і ўсё гэта неяк круціцца –
і я, і гандляр сувэнірамі,
і гід, і кіроўца аўтобуса,
і ўвесь турыстычны бізнэс Ісляндыі,
ня кажучы пра плянэту”.

*верасень 2013, Рэйк’явік*

Фэдэрыка Гарсія Лорка / Леанард Коэн

## Маленькі венскі вальс

Ёсьць у Вене дзесяць жанчынаў
У адной плача Сьмерць на плячы
Сорак лоджыяў зь відам на дрэва
Дзе ўміраюць галубкі ўначы

Ёсьць халодная раніца ў раме
У мастацкім музэі Зімы
Ай-яй-яй-яй!
Атрымай гэты вальс
Дзе, зьнямелыя, кружымся мы

Ад жаданьня, жаданьня, жаданьня
Паміраю і прагну далей
У пячору, дзе рэўнасьці здані
Заблукалі ў пялёстках лілей

Дзе ня сьпіць неспатольная поўня
На гарачай тваёй прасьціне
Ай-яй-яй-яй!
Утрымай гэты вальс
Гэты вальс на апошняй струне

Наш вальс, наш вальс на чвэрць зь віна
А рэшту музыка вып’е адна –
Тры чвэрці сьмерці да дна

B-G#m
B-D#m/A#-G#m
E-F#
E-E-D#m-C#m-B-D#7/A#
G#m
C#m-G#7-C#m ..|.. B/D# |
E-B/D#-C#m-B
D#7/G-G#m
C#/F-E

G#m
C#m-G#m
E6-B-F#sus4-F#

Ёсьць у Вене храм велічных музаў
Дзе на біс выклікалі твой рот
Побач з барам, дзе брытвамі блюзаў
Рэзаў горла музычны народ

А пасьля да твайго пастамэнту
Нёс букет сьвежазрэзаных сьлёз
Ай-яй-яй-яй!
Затрымай гэты вальс
Што памёр для цябе і ўваскрос

Ёсьць гарышча, дзе бавяцца дзеці
Прыдумляючы рыфму да “кроў”
У сьвятле самых лепшых на сьвеце
Будапэшцкіх старых ліхтароў

Перад сном – за авечкай авечка
Абяцанкі, як траўку, скубе
Ай-яй-яй-яй!
Падтрымай гэты вальс,
Што “ніколі ня кіне цябе!”

Наш вальс, наш вальс на чвэрць зь віна
А рэшту музыка вып’е адна –
Тры чвэрці сьмерці да дна

Я пушчу гэты танец па Вене
І ракою цябе панясу
Апушчуся, як раб, на калені
Каб сабраць тваіх сьцёгнаў расу

Затрымаю імгненьне ў абдымках
Дні і ночы, і ўсё, што паміж
І ніхто не пабачыць на здымках
Маю танную скрыпку і крыж

Хай цячэ па артэрыях Вены
Мая жарсьць і твая прыгажосьць
Захавай гэты вальс!
Гэта ўсё, што ў нас ёсьць
Што было і што будзе. І досьць!

Жак Брэль / Яцак Качмарскі

## П’яніца

Am – C – H7 – E
Am – C – H7 – E
Am – Dm – G – C – E7
Am – Dm – Em – Am
Am – Dm – Em – Am

Налі яшчэ адну
І потым паўтары.
А што сьлязу змахну,
Да сэрца не бяры.
Ўсё добра, мой стары,
Так добра, што ў труну...
Налі яшчэ адну,
Налі яшчэ адну.

Мы вып’ем за цябе
Зялёнага віна,
Бо хлусіш мне ў журбе,
Што вернецца яна.
Я праўды ад маны
Адрозьніць не змагу:
Глыток – і я, п’яны,
Забуду пра тугу.

Падманшчык, будзь здароў,
Бо ісьціна ў віне!
Мы вып’ем за сяброў,
Што кінулі мяне.
Ды крыўды, пацаны,
Мінаюць пакрысе:
Глыток – і я, п’яны,
Забуду іх усе.

Мы вып’ем па адной
За шчасьце на зямлі,
Каб танчылі са мной
Сяброўкі і пілі.
Няважна, што яны
Даводзяць нас да сьлёз.
Глыток – і я, п’яны,
Забуду пра іх лёс.

А потым вып’ю за
Няверную адну,
І хай цячэ сьляза,
Бо шчасьця не вярну,
Бо атруціла сны,
Бо жыць мне не дае...
Глыток – і я, п’яны,
Забуду пра яе.

Цяпер давай за тых,
Хто з намі ў гэты час,
А заўтра дасьць пад дых
І прэч прагоніць нас,
Асудзіць безь віны
І не згадае больш...
Глыток – і я, п’яны,
Забуду гэты боль.

Дык будзем піць, пакуль
Адчынена ўначы,
Каб рухнуць, нібы куль,
Ды сум перамагчы!

Каб у вушах – званы,
Няспраўджаных надзей...
Глыток – і я, дурны,
Ізноў люблю людзей...

Налі яшчэ адну
І потым паўтары.
А што сьлязу змахну,
Да сэрца не бяры.
Так добра, мой стары,
Што я яшчэ глыну...
Налі яшчэ адну,
Налі яшчэ адну.

## Шнуркі

Раскажу вам пра хлопца, што жыў у вершы,
няскончаным і нідзе не надрукаваным.
Яго прыдумаў паэт, калісьці непераверханы,
а сёньня стары, самотны й расчараваны.

Хлопец джынсы насіў зь дзіркай вышэй за калена,
швэдар, зьвязаны мамай, цёплы і модны.
А ў ботах шнуркоў не было. Калі ўжо казаць сумленна,
то пра шнуркі не падумаў паэт самотны.

Хлопчыку падабалася раньняя восень,
пасядзелкі ў кавярні, калі ня паляць,
падарожжы тралейбусам трыццаць восем
і дзяўчо, што адразу запала ў памяць.

Дзяўчынка села насупраць і так зірнула з-пад веек,
што ўсё ў тралейбусе зьнікла, апроч дзяўчынкі.
І ён шукаў словаў, каб загаварыць, але не выходзіла неяк,
бо ён толькі ў межах верша рабіць мог учынкі.

У дзяўчыны ў руках букецік валошак,
і хлопец ужо гатовы спытаць: “Незнаёмка, хто ты?”
А ў паэта пахмельле, незасьцелены ложак
і працягваць пісаць – ніякай ахвоты.

І ўсё абрываецца раптам, букецік вяне,
а потым зноў раньняя восень і пасядзелкі ў кавярні...
І хлопец даўмеўся: “Жыцьцё маё кружыць па коле,
і на размову зь дзяўчынай ня хопіць часу ніколі.

Зранку прачнуўся – тым горай, вочы і рукі вымый.
Вось мой сьняданак. Трэба выходзіць а восьмай.
Вось прыпынак тралейбусны канцавы мой,
і трыццаць восьмы вось мой.

Крочыць і не зважаць на лужыны пад нагамі...”
І тут ён заўважыў: дзяўчына яму ўсьміхаецца.
Потым пытае: “А што з тваімі шнуркамі?
Шматкаляровыя хочаш? Табе спадабаецца”.

Гэта самотны паэт знайшоў на гарышчы
верш, які думаў, што зьнішчыў, але ня зьнішчыў.
І, паглядзеўшы на тыя крамзолі, неспадзявана
давершаваў усё, што было недавершавана.

І стаў паэт маладзець, унутры і звонку,
і кансэрватыўны крытык назваў яго малайчынай.
Да паэта вярнуліся муза, каханка і жонка,
што назаўсёды сталі адной жанчынай.

І хлопец сказаў дзяўчыне: “Мне падабаецца восень,
дажджы і калі на вуліцах лісьце паляць,
падарожжы тралейбусам трыццаць восем
побач з табой, што адразу запала ў памяць”.

* * *

ЕЙНЫЯ ПАЛЬЦЫ ПАХНУЦЬ ТРАВОЙ І ЛАВАНДАЙ
У ЕЙНЫХ ВАЧАХ СЛАНЕЧНІКАЎ ПОЎНАЕ ПОЛЕ
У ЕЙНАЙ ВАЛІЗЦЫ ПЛЕШЧАЦЦА КАНТРАБАНДАЙ
МІЖЗЕМНАЕ МОРА ФРАНЦУСКАГА АЛЬКАГОЛЮ

ЯЕ РАДЗІМКІ СЬВЕЦЯЦЦА Ў ЦЕМРЫ ЯК ЗОРЫ
НА ЕЙНЫЯ ВЕЙКІ ЗРАНКУ СЯДАЕ ТУМАН
КАЛІ ЯНА ЙДЗЕ БАСАНОЖ ПА ХАЛОДНЫХ ПЛІТАХ САБОРАЎ
У КОЖНЫМ САБОРЫ ІМГНЕННА ЗМАЎКАЕ АРГАН

У ВАЛАСАХ ЦЫКАДЫ СЬПЯВАЮЦЬ БЕЗЬ ПЕРАПЫНКУ
КАЛІ ЯНА ПРОСТА НА ТРАСЕ ЗАПЛЮШЧВАЕ ВОЧЫ
І ТЫ КРЭМЗАЕШ ВЕРШ ПАЎНОЧЫ КАБ УРАЗІЦЬ ЯЕ НА ХВІЛІНКУ
А ЯНА ЗА ХВІЛІНКУ ЎРАЗІЦЬ ЦЯБЕ НА ПАЎНОЧЫ

# Вайна

Божа! Дай мне лагоды прыняць тое, што я не магу зьмяніць,
мужнасьці зьмяніць тое, што магу,
і мудрасьці – заўсёды адрозьніць першае ад другога.

*Курт Вонэгут. Бойня №5*

Кожны раман – пра вайну. На пачатку – гульні ў вайнушку,
потым умоўны праціўнік падступна мяняе пол.
Як санітарку, у сьне абдымаю падушку.
А санітарцы ўжо пяць. Ёй цікавы ня я, а футбол.

Не ваяваць з настаўніцамі меў я цьвёрдае правіла –
і ваяваў з выхавальніцай у садку. Я сказаў ёй, што маю спадзеў
на ўзаемнасьць, бо мне хутка шэсьць. А яна мяне ў кут паставіла,
у дадатак – тварам да сьценкі, каб больш на яе не глядзеў.

Браць у палон аднакласьніцу – во дзе сапраўднае пекла:
неяк, пасьля віна і павольнай музыкі
я ня змог расшпіліць ёй маланку на джынсах. Яна заплакала й зьбегла.
Толькі праз дзесяць гадоў я дазнаўся, што там былі гузікі.

Я тады ваяваў з мэдсястрой: меў шчасьце зайсьці ў паліклініку.
Мэдсястра начамі залечвала мой зранены арганізм,
а потым сказала мне: “Вы, мужыкі, казлы і цынік на цыніку!”
“Цынік на цыніку – геі”, – кажу. А яна мне: “Вось ён, цынізм!”

Яе самотная мама ўпотай глядзела порна.
Параіла гнаць мяне ў шыю, бо невялікая страта!
Недзе праз год мама выйшла замуж паўторна.
Недзе праз два мэдсястра ўжо мела мэдбрата...

Мэдсястра пайшла ў культурысткі, і гэта напраўду быў фініш.
Я знайшоў яе зноў па абвестцы: “Шукаю сэкс-ідала!”
Раўнавала да ўсіх. Я пытаю: “Паб’еш ці адразу кінеш?”
Апошняе, што я запомніў: “Чакай, я яшчэ ня кідала!”

Межы ночы і дня зрабіліся хісткімі.
Зранку трасуся, па горла сыты ваеннай рамантыкай,
п’ю валідол і чытаю малітву з тугою:
“ГОСПАДЗЕ, ДАЙ МНЕ ЛАГОДЫ НЯ БЕГАЦЬ ЗА ДЫНАМІСТКАМІ,
МУЖНАСЬЦІ, КАБ НЯ ЗЬВЯЗВАЦЦА ЗЬ НІМФАМАНКАМІ,
І МУДРАСЬЦІ, КАБ ЗАЎСЁДЫ АДРОЗЬНІВАЦЬ ПЕРШАЕ І ДРУГОЕ!”

## Лорка і Лорка

Ён убачыў яе ўпершыню ў кавярні “Салодкі засьценак”.
Прыдумаў гадкі экспромт у гонар дзявочых каленак.

Яна ў школе вучыла дзяржаўную мову Вэнэсуэлы.
Ён пісаў для яе рамансэра, касыды й газэлы.

Ёй яшчэ не было й сямнаццаці, а яму – ужо чатырнаццаць.
Яна біла яго пры кожнай сур’ёзнай спробе памацаць.

Ён сьвісьцеў ёй на выбітым зубе, куды салаўю!
А яна казала: “Палезеш цалавацца – зусім прыб’ю!”

Ён зваў яе Лорка – скарочана ад Ларэлеі.
І яна яго Лорка – чакаючы, покуль паэт пасталее.

Яны разам займаліся спортам. Якім? Неістотна. Але, але
ён убачыў яе купаньне пры месяцовым сьвятле.

Кожны дзень – па тры трэніроўкі на зборах,
а калі застанецца порах,
дыскатэка з парнымі танцамі
на піянэрскай дыстанцыі.

Ён сказаў, што падорыць ёй вальс да закушаных губ.
А яна, што благому танцору... зламала нагу б.

Ён сказаў: “О, вазьмі гэты вальс зь перабітым крылом!”
А яна: “Калі не заткнесься, агрэю вяслом!”

Размахнулася – і ў вачах яго згасла сьвятло.
Хто чытае, ужо здагадаўся: каханьне перамагло.

Трэнэр гутарыў зь ім пра рэжым, а ён думаў: “Які рэжым,
калі мы ад жарсьці дрыжым!”

Трэнэр зь ёй размаўляў пра каманду, а яна: “Якая dream-team,
калі мы ад каханьня трымцім!”

Калі ў сто абліччаў поўня ўзышла над імі ўначы
і звонка ў кішэні рыдалі скрадзеныя ключы,

сярэбраныя ключы ад яе пакоя,
калі ён прыйшоў, убачыў і ўсё такое.

Два сэрцы чатырыста ўдараў ім за хвіліну адмералі.
Два трэнэры ўзялі сьлед, як гішпанская жандармэрыя.

Калі пад раніцу выдалі рыпам спружыны-здрадніцы –
і трэнэр гумовым сланцам стрэліў па голай задніцы.

Удар па задніцы сланцам – на трэнэрскім слэнгу “лапаць”.
Рука жандара ня дрыгне. Жандары ня ўмеюць плакаць.

Ён тыдзень ня можа сесьці. Ён месяц ня сьпіць начамі...
А ў ночы чатыры поўні й зьнямелай гумы маўчаньне.

## Падсрачнік

“Коля, дай падсрачнік!” –
крычыць маленькая дзяўчынка
ў цябе за сьпінай.
Ты ажно паварочваесься.

“Ну дай, калі ласка, падсрачнік!
Дай! Табе што – шкада?”

“Падсрачнік? – перапытвае Коля
на ўсякі выпадак. –
Ну, на!”

І дае дзяўчынцы
пластыкавую прыладу для катаньня.

Равесьнікі тваёй дачкі
катаюцца з горкі на санках,
а твае ўяўленьні пра родную мову
безнадзейна састарэлі.

## Без адказу

Пісьменьніцы сьвету спрачаюцца
пра орган, які адказвае
за мужнасьць мужчыны.

– Сэрца! – уздыхае рамантычная паэтка.
– Розум! – не пагаджаецца клясыцыстка.
– Страўнік! – прапануе натуралістка.
– Партманэ з грашыма! – сьцьвярджае рэалістка.
– З крэдыткамі! – удакладняе мадэрністка.
– Х… яго знае, – падводзіць рысу постмадэрністка.

Рэдактар выкрэсьлівае два непатрэбныя словы.
Цэнзар – трэцяе.

## Трэці сусьветны

Трэці сусьветны кангрэс змагароў за мір
падрыхтавалі. Зьнялі закінуты цір.

Кожнаму міратворцу – бэйджык на шыю,
каб не паблытаць, дзе свае, дзе чужыя.

Кожны другі жартуе. Кожны трэці вачыма
віртуозна страляе. Снайпэр, магчыма.

Заля рагоча. Ня сьмешна адной перакладчыцы ў будцы:
"Мозг закіпае – капец, а гэтыя курвы сьцябуцца!"

Хтосьці згадаў пра культуру. Бліжэй да Аляскі
просіць паслаць *ансамбль песни и пляски*,

бо парушае банджа правы балалайкі.
Выбух аплядысмэнтаў. Снайпэры ставяць лайкі.

Хтосьці ў адказ забаніў варожую постаць,
абяцае адпомсьціць і перапомсьціць,

трохпавярховымі санкцыямі суседу
пагражае. Вельмі злуецца. Але дабрэе пасьля абеду.

Хтосьці захроп, ды зноў заплясkалі ў ладкі.
Валанцёры ў сьвяточных масках зьбіраюць складкі.

Сьмерць пазяхнула і выйшла – туды, дзе кава.
Перамаглі міратворцы. Ёй тут нецікава.

# Памяці

Мочыць вусы пена цёмнага піва…

*Зьміцер Сідаровіч*

навальнічны травень патанае ў леце
прарастаюць кветкі стужкі і вянкі
завісае памяць на тваім куплеце
тапалёвым пухам падаюць радкі

я далей катую памяць-самабранку
і яна такі мне вобраз выдае
ля ўнівэрсытэту проста каля ганку
барадаты рыцар уначы пяе

хтось адной далоняй з пляшкі выбіў корак
ты сьпяваў гадзіну а магчыма й тры
панабегла зорак чалавек пад сорак
і прыблізна столькі ж слухала ўгары

памачалі ў піве песеньку на кухні
я казаў паправіць ты казаў: пасьля
ападае пена ў недапітым кухлі
тапалёвым пухам падае зямля

***

Здараюцца дні,
калі нават малазнаёмым
ты кажаш "здароў!"
або "прывітаньне!",
адно каб пазьбегчы словаў:
"добры дзень!"

* * *

Лепш у руках суніцы, чым журавіны
на палескіх купінах між дрыгвы.
Зранку новы кастрычнік, як і павінны,
скосіць газонакасілкай іней з травы.

Партыя з бабіным летам скончыцца патам,
вецер заселіць усе буськлянкі эРБэ,
восень да лесу павернецца лістападам
і лістападаўскім верадам – да цябе.

Водар ля інтэрнатаў, як справаздача
двух буслоў, што на даху палілі плян.
Гэта сок журавін – лістапад ня плача,
разьвітальны прэзэнт сунічных палян.

Сьвежыя нумары “Камсамольскай крыўды”
скручваеш касякамі – надзейны схоў
плянам, якія ты на зіму рабіў, ды
пасьпяшаўся – і зноў насьмяшыў багоў.

***

Восеньскія намёты
павырасталі за ноч, як грыбы.
Ранак зьбярэ іх усе,
асьцярожна,
каб не пашкодзіць грыбніцы.

## Майстар-кляса

Ля чыгуначнага вакзала
я падносіў бабульцы сумкі,
і бабулька раптам сказала:
“Пазьбягай недарэчнай думкі,

быццам сьвет табе вінны нешта:
людзі – жмінды, слова жабрачкі!
Блазнаватым – дробная рэшта,
хоць пужай іх пеклам да ўсрачкі,

быццам ты на сваім гарышчы
апынуўся бліжэй да неба...
Што? Ня верыш? Пагавары яшчэ!
Дай авоську. Грошай ня трэба...”

## 24 сьнежня 2011 г.

Сёньня ў хату цішком
Дзед пракраўся зь мяшком,
А ў мяшку, відавочна, заначка.
Барадой – Дзед-Мароз,
Майка з надпісам “ШОС!”
Ну, заходзь, калі ты не гарачка!

Ён сказаў мне: “Шалом!”
І – удвух за сталом
Мы падводзілі вынікі году,
Ігнаруючы пост,
І гучаў кожны тост:
“За падманы! За страты! За шкоду!”

Я сказаў, што хлусьня
Адусюль і штодня:
“Нават сьнег падмануў і ня выпаў,
Нават мроі ды сны –
Разнавіднасьць маны.
Вось і ты... Тост сказаў, а ня выпіў!”

А дзядок у адказ
Выпіў з келіха раз,
Выпіў два – і сьмяецца, як д’яблік:
“Усё праўда, але
Ёсьць віно на стале,
Мандарыны, карыца і яблык!

Усё праўда, аднак
Будзе зорка як знак,
Што надзея ня зьнікла дашчэнту,
А сябры, як цары,
Ўжо рыхтуюць дары,
І малы будзе рады прэзэнту!

Хай пэтарды ўгары
І – “Ялінка, гары!”,
І згадаецца нам, як калісьці,
Пра калядны настрой,
Пра спаўненьне ўсіх мрой
І пра ўсіх немаўлят у калысцы.

Хай увечары двор
Пасьвятляе ад зор
І, сігаючы ў санкі з разьбегу,
Ад Раства да Раства
Лепіць сьнежкі дзятва,
Бо нарэшце нападае сьнегу!”

## Каляды-транзыт

О скільки конику-братику крутих чудасій
на світі

*Ю. Андрухович*

Колькі дзівосаў, колькі цудаў наўкола!
Трэба верыць у сьвята – і пашанцуе.
Зранку званок дамафона. Хто там?
– Сьвяты Мікола,
я да суседзяў, у іх дамафон не працуе.

Цісну на кнопку. Ціха. А потым грукат у дзьверы,
бо званок зламаўся ня помню калі.
– Можна пагрэцца? Суседзяў няма ў кватэры,
а мяне ля пад’езду баршчом аблілі.

Толькі таго... я з аленямі. Пусьціш?
– Пушчу.
Во будзе радасьць малой – авечкі, кароўкі...
Адчыняю. Тры дзядзькі. Адзін з каструляй баршчу,
а ў руках у “аленяў” дзьве паўлітроўкі.

Покуль Мікола палову каструлі выеў,
я ім казаў пра наша жыцьцё фіговае.
– Мы тут праездам, хлопча, з падарункамі ў Кіеў,
ён іх болей чакае і заслугоўвае.

Скончылі пляшкі. Пайшлі па горадзе пешкі.
– Дзякуй за пачастунак. Нясмачны боршч.
Добра, хочаш прэзэнтаў – чытай мне вершыкі,
толькі кажу адразу, пасьля ня збоч!

Слухаць паэзію госьць пажадаў на пленэры.
Разам прыйшлі на ганачак, пад музэй.
Я – пра калядную зорку, а ён – аб зорцы Вэнэры.
Пара сяброў і больш – у цывільным – друзей.

Апляпдысмэнты. Уцёкі. Цягнік. Пацалункі.
Патасны верш пакрысе пераходзіць на шэпт...
Зранку вярнуўся дамоў, а там падарункі.
Факсімільны “Вянок”. І баршчу ўкраінскі рэцэпт.

## Батлейка

Зорка сьняжынкай упала дзяўчынцы на вейкі.
Дзед Мароз пасьлізнуўся на мандарыне.
Сёньня, адзін раз на год, прадстаўленьне батлейкі,
што адчыніць вам дзьверы чароўнай скрыні!

Наша батлейка вялікая, трохпавярховая,
і на кожным паверсе – усё, што трэба.
На сярэднім – зямля, пастушкі, цар Ірад з аховаю.
На высокім – калядная зорка і неба.

На падземым паверсе – грэшнікі й пекла,
замест катлоў і патэльні – мэтро, у гадзіну пік...
Рэжысэр хвалюецца – публікі панабегла,
дваццаць вякоў на сцэне, а ўсё не прывык.

Напагатове ясьлі, анёлы, жывёла.
Сьмерць рэжа торт касою. Рукі ў чырвоным цесьце.
Ірад закручвае гайкі. Сюжэт раскручвае колы.
“У Бэтлееме, убогім доме...” Далей па тэксьце.

Зорка, як водзіцца ў зорак, капрызіць, аднак
потым спускаецца зь неба, і гэта знак,
што, насуперак Іраду, перамагае дабро.
Нават у пекле амністыя. Магі выходзяць з мэтро,

а над зямлёю – анёлы! Звычайны люд
бачыць што бачыць і радуецца: “Салют!”
Бог нарадзіўся. Магі нясуць прэзэнты.
Тут і батлейкі канец. Хто слухаў, апляндысмэнты!

На паклон выклікаюць мядзьведзя з казою.
Дзеткі ўплятаюць ласункі. Вяжа вусны хурма.
Гледачы спахапіліся, клічуць і сьмерць з касою,
а сьмерці няма.

# Зьмест

